галавы, спыталі, куды іду, а потым тыцнулі ў сьпіну руляй карабіна...

Тыдзень сядзеў пад вартаю разам з тузінам гэткіх жа вясковых хлопцаў. Ад іх і даведаўся — да каго патрапіў. Як высьветлілася, у Гарадцы кватараваў полк так званай «Рускай нацыянальнай арміі», якім камандаваў падпалкоўнік Радыёнаў. Пасля допыту мяне і колькіх іншых вязняў адправілі чысціць бульбу, а неўзабаве пастроілі перад камендатурай і абвясцілі, што мы мабілізуемся ў «Нацыянальную армію».

Ваяваць на баку немцаў, вядома, ніхто не хацеў. Некалькі «мабілізаваных» паспрабавалі было збегчы, але іх злавілі і, па чутках, расстралялі. Пасля таго мы, казаў той, прыціснулі вушы і сталі чакаць — што будзе далей. Але далей нічога такога не надаралася. Праз месяц, а пэўнай ночы нас пастроілі ў калону і загадалі рушыць наперад. Пайшлі мы ў накірунку Докшыцаў, перайшлі чыгунку і ў адным з лясоў пачулі наступнае: полк распачынае барацьбу з нямецка-фашыстоўскімі захопнікамі і будзе называцца 1-й Антыфашыстоўскай партызанскай брыгадай. Так начальства дамовілася.

Жыццё партызанскае не было салодкім. Двойчы быў паранены. Другім разам — цяжка. Збіраўся ужо вярнуць Богу душу, але, на шчасце, апынуўся паблізу партызанскага аэрадрома — ля вёскі Гуты — Сяржаны Вушацкага раёна, — і мяне самалётам перакінулі на савецкую тэрыторыю.

А пасля папраўкі апынуўся ў вучэбным танкавым палку, а ў складзе 37-й мехбрыгады ізноў на вайну.

Дахаты вярнуўся прыканцы лістапада 1945 года. Усё навокал ляжала ў руінах, усё было сплюжана і панішчана. Уладкаваўся на працу ў школу, і ўсё астатняе жыццё — аж да пенсіі — працаваў настаўнікам.

Зрэшты, дзеля чаго я пра ўсё гэта распавёў? Толькі з адною мэтаю: паказаць, што беларус на сваёй зямлі ва ўсе часы быў прыніжаным і бесправным. Любая ўлада, якая існавала на Беларусі, знішчала свядомых беларусаў, знішчала нашу мову і культуру, і таму не дзіва, што напярэдадні другога тысячагоддзя ад нараджэння Хрыстова мы, беларусы, ператварыліся ў натоўп, які не ведае, што рабіць, куды бегчы і, разявіўшы рот, слухае байкі розных прайдзісветаў.

**«Новая газета» (Наваполацк).**

# ПОКЛІЧ ЗЯМЛІ ПРОДКАЎ

**Крысьціян Наркевіч-Лейн, дырэктар The Chicago Athenauem, наладзіў новую выставу малюнкаў «Чарнобыль вачыма беларускіх дзяцей».**

Урачыстая прэзэнтацыя гэтай перасоўнай выставы адбылася 29-га кастрычніка ў Вашынгтоне, у памешканьні Сэнату ЗША ў прэстыжнай залі Russel Building Rotunda. Адкрыў выставу, многія аўтары якой, на жаль, ужо не жывуць, сэнатар Брэдлі. А 3-га лістапада яна перамясьцілася туды, дзе працуе Палата Прадстаўнікоў, у залю Cannon Building Rotunda. Там уступнае слова сказаў кангрэсман Сміт. Частка малюнкаў экспанавалася ўжо на выставе ў Чыкага ў сьнежні 1993 году; многія, нядаўна прывезеныя з Беларусі, амэрыканскія гледачы бачаць упершыню.

Толькі параўнаўча нядаўна Крысьціян Наркевіч-Лейн, сам народжаны ў Фінляндыі, дазнаўся, што ягоная генеалогія па матчынай лініі ідзе ад старадаўніх беларускіх родаў Йодка-Наркевічаў, Кацюцэвічаў, Радзівілаў. Брат ягонага дзеда, Якуб Йодка-Наркевіч, быў найвыдатнейшым беларускім навукоўцам, найбольш цікавыя яго працы зьвязаныя з дасьледваньнямі Х-праменьняў ды канструяваньнем рэнтгенапарату.

Падчас паездкі на Беларусь Крысьціяну ўдалося зрабіць ксэракопіі старонак царкоўных ды касьцельных кнігаў, знайсьці некаторыя старыя фотаздымкі, генеалагічныя схемы і табліцы, зрабіць здымкі напаўразбуранага храму ў родных мясьцінах, падмурку былой сядзібы дзядоў... Усё гэта незвычайна ўстрывожыла, усхвалявала душу. Тады і нараджаліся ў Крысьціяна Наркевіч-Лейна натхнёныя радкі, што выліліся потым у верш «Беларусь»:

**Магутны голас матчынай крыві**
**Даўно ўжо не дае мне супакою**
**І апантана кліча весь сюды,**
**Да нашае капліцы і сядзібы,**
**Да гэтага чароўнага пэйзажу**
**З яго мэланхалічнаю аздобай,**
**З халоднымі вятрамі ды дажджом,**
**З высокімі нябёсамі ды сумам,**
**Які, здаецца, на вякі над вамі...**

(Пераклад з ангельскай мовы мой. – В. Н.)

Сёлета, калі адзначаецца дзесяцігодзьдзе Чарнобыльскай катастрофы, Крысьціян Наркевіч-Лейн вырашыў зноў прыцягнуць увагу амэрыканскай грамадзкасьці да праблемаў і бедаў тых, хто жыве на атручанай радыяцыяй зямлі. Ён стварае "The Radzivill/Jodko-Narkievich Foundation", мэта якога — усебаковая дапамога тым, хто пакутуе ад Чарнобыльскай аварыі, і перш за ўсё — дзецям. Фонд распачаў збор сродкаў на дапамогу хворым дзецям, на адпраўку ў беларускія дзіцячыя бальніцы абсталяваньня, лекаў, прадуктаў харчаваньня, якіх там не хапае. Пасольства Беларусі у ЗША дапамагло скласьці дакладны сьпіс усяго неабходнага. У самы бліжэйшы час па ініцыятыве і запрашэньню "The Radzivill/Jodko-Narkievich Foundation" у Амэрыку на стажыроўку прыедзе група лекараў з Беларусі, каб засвоіць мэтодыку пасьпяховага



Сп. Крысьціян Наркевіч-Лейн

правядзеньня апэрацыяў дзецям, хворым на рак шчытавіднай залозы...

З 18-га лістапада выстава «Малюнкі дзяцей Чарнобыля» экспанавалася ў Вашынгтоне ў Нацыянальным клубе арміі і флоту, а 4-га сьнежня яна адкрылася ў Чыкага ў залях "The Chicago Athenaeum". Адначасова ў гэтых-жа залях наладжана выстава-продаж сьвяточных перадколедных цацак ды ўпрыгожваньняў, створаных архітэктарамі і дызайнэрамі з розных краін сьвету. Увесь збор ідзе ў Фонд дапамогі дзецям Чарнобыля. На выставу шырока запрашаюцца ня толькі дарослыя, але і дзеці, іх просяць, па магчымасьці, прыносіць у падарунак беларускім дзецям цацкі і самыя розныя прылады, неабходныя для маляваньня: пэндзлі, фарбы, эцюднікі, альбомы, алоўкі, фламастэры ды іншае.

Пасьля чыкагоўцаў — выставу "Малюнкі дзяцей Чарнобыля" пабачаць у Вісканcыне, у Мэдысане, у залях "Madison Children's Museum". Улютым 1997 году яе прыме "Tulane University" ў Новым Арлеане. Потым плянуецца паказаць яе ў Сан-Францыска, Бостане, Нью-Ёрку, Мінеапалісе, Гюстане. Вядуцца перамовы аб паказе яе ў Осла, Вене, Лёндане. Яе павінен убачыць увесь сьвет, — лічыць Крысьціян Наркевіч-Лейн.

"Хай як мага болей людзей дазнаецца, што адбылося на той зямлі і як там цяпер жывуць, — ціха сказаў мне падчас апошняй сустрэчы гэты чалавек з адкрытым ветлівым тварам і знаёмым сумам уваччу. —Рэжым, што панаваў там раней, зьнішчыў пакаленьне маіх бацькоў, таму не знайшлі сябе там я ды і маё пакаленьне... І я павінен нешта зрабіць для гэтай зямлі, і перш за ўсё для яе дзяцей. А потым і для яе культуры. Таму што незвычайна багатай была яе духоўная гісторыя..." Памаўчаўшы крыху, Крысьціян Наркевіч-Лейн дадаў: "Цяпер я неразлучны з Беларусьсю".

*Ванкарэм Нікіфаровіч, Чыкага.*



Помнік Францыцку Скарыну на Градчанах у Празе., Чэхія. (аўтар Э. Астаф'еў)

# Прафэсар А. Кубарка ў Лёндане, Канада

**Прафэсар Аляксей Кубарка, рэктар мэдычнага інстытуту ў Менску быў маім госьцем, а таксама госьцем нашага ўнівэрсытэту. Мы запрасілі яго, каб навязаць бліжэйшую лучнасьць паміж нашым унівэрсытэтам і мэдычным інстытутам у Менску. Гэтая мэта была поўнасьцю зрэалізавана. 21-га кастрычніка 1996 г. прэзыдэнт Лёнданскага ўнівэрсытэту прыняў нас на прыватным абедзе. Тут былі абгавораны ды ўплянованы шырэйшыя навуковыя кантакты паміж Менскам і Лёнданам. Плянуецца вымена студэнтаў ня толькі мэдычных, але таксама і іншых факультэтаў. Гэтае пытаньне было больш удакладнена з дзеканам мэдычнага факультэту на наступны дзень. Плянуецца вымена і прыняцьцё беларускіх студэнтаў на трэйці і чацьверты год мэдыцыны а таксама стажыроўку ў розных спэцыяльнасьцях.**

**Праф. Кубарка зрабіў некалькі дакладаў аб стане навукі ў Беларусі, чарнобыльскай аварыі і яе насьледзтвах. Усюды выклікаў жывое зацікаўленьне слухачоў. У гэтым часе была тут на стажыроўцы др. Жана Бэльцэр, якая спэцыялізавалася ў эндакрыналёгіі і асабліва лячэньні ракавых зьменаў у шчытавых залозах. Яна таксама зрабіла два даклады. 22-га кастрычніка прэзыдэнт унівэрсытэту зладзіў вялікае прыняцьцё для дзяцей з Беларусі ды канадыйскіх сем'яў, якія гасьцілі нашых дзяцей на працягу 7-мі тыдняў. Гэта быў запраўды беларускі дзень у Лёндане. Праф. Кубарка вітаў прысутных ды падзякаваў усім тым, хто заняўся лёсам беларускіх дзяцей. Прыняцьце закончылася пачастункам ды танцавальнай праграмай. Дзеці выступілі з некалькімі песьнямі. Такія імпрэзы вельмі карысныя, каб зацікавіць шырэйшыя колы канадыйскага грамадзтва беларускімі праблемамі. Хочацца ўспомніць таксама пра багатае прыняцьце наладжанае спадарствам Чэмбэлен для праф. Кубаркі, чарнобыльскага камітэту і сяброў Опэрэйшэн Беларусь.**

**Выпадае спадзявацца, што ўсе нашы задумы і пляны споўняцца. Праф. Кубарка быў маім гасьцём і мы мелі нагоду бліжэй пазнаёміцца. Ён зрабіў на мяне добрае ўражаньне як беларус, але асабліва як адданы навуковец, які імкнецца паставіць Менскі мэдычны інстытут на высокі ўзровень. Між іншым у канцы кастрычніка споўнілася 75 гадоў ад яго заснаваньня.**

*Б. Рагуля*



**Зь лева на права: Павал Довэнпорт, прэзыдэнт лёнданскага ўнівэрсытэту, праф. Аляксей Кубарка, рэктар Мэдычнага інстытуту ў Менску і др. Барыс Рагуля, старшыня «Опэрэйшэн Беларусь».**

# ЕВАНГЕЛИЕ ОТ ВАСИЛИЯ

Вероника ЧЕРКАСОВА

**15 ноября в Национальной библиотеке Беларуси состоялась презентация переведенного на белорусский язык Нового Завета. Мимо вахтера, внося технику, сновали телевизионщики, проходили гости, а в холле стоял растерянный и незамеченный автор перевода, лауреат Государственной премии Беларуси поэт Василий Семуха. Не нашлось никого, кто встретил бы и пригласил в зал человека, благодаря трудам которого это мероприятие состоялось. Зная Василия Сергеевича не первый год, я решила пригласить его в редакцию «Имени».**

***— Василий Сергеевич, как же так получилось, что в то время, когда в Национальной библиотеке идет презентация переведенного Вами Нового Завета, герой презентации сидит в редакции газеты «Имя»?***

—Я не герой презентации. Дело в том, что ее организовал писатель Евгений Лецко, мое сотрудничество с которым по выходу этой книги с первого до последнего дня одно недоразумение и сплошной скандал. Я передал ему набор книги, который сделал в Канаде проповедник Юрка Рапецкий. После того, как я понял, что мы не придем к согласию, я попросил у Лецко вернуть мне набор, поскольку наш соотечественник, живущий в США Янка Запрудник дал на его издание $5000, и я надеялся издать книгу в другом месте.

В свою очередь, Евгений Лецко категорически отказался вернуть мне мою рукопись, сделав попытку обобрать меня до нитки, заплатив всего $200 за пятилетний труд по переводу на белорусский язык Нового Завета, мотивируя это тем, что это - книга святая, и трудился я все эти годы ради святого дела, получать деньги за которое, соответственно, грех. Только суд смог разрешить этот спор. Деньги, которые он должен был выплатить мне согласно решению суда, заплатил за него Янка Запрудник.

***— Для того, чтобы белорусы увидели Новый Завет на своем языке, набор сделал в Канаде Юрка Рапецкий, деньги на издание книги дал живущий в Америке Янка Запудник, а что же было сделано для этого здесь, в Беларуси?***

— Наш министр культуры и печати Анатолий Бутевич, когда я предложил ему издать эту книгу, сказал: «Если ты, Василий, найдешь нам солидного спонсора, так почему бы и нет? Издадим...»

***— А какова в этом вопросе позиция владыки Филарета?***

— Он был и останется вечным врагом этого дела.

***— Почему же?***

— Патриарху не нужен перевод Священного писания даже на русский язык, а тем более на белорусский, церкви нужен только вариант на церковнославянском языке. Начиналась же эта работа как раз по инициативе Филарета. Это был 1988 год, когда шли активные процессы белорусизации, и церкви тоже надо было как-то приспосабливаться к быстро меняющимся условиям. Тогда и было выдвинуто им такое предложение. Я сделал перевод, отдал его в специально образованную по этому случаю библейскую комиссию, но ее мой перевод совершенно не устроил. Дело в том, что, по их мнению, при переводе допустима только калька с синодального издания, с сохранением всех точек и запятых. Да и кое-какие устоявшиеся выражения вообще переводить не стоит. Так, по их мнению, «благодать» пусть «благодатью» и останется, что на мой взгляд, совершенно недопустимо, потому что по-русски «благо» это нечто светлое, хорошее, а по-белорусски слово «блага» имеет прямо противоположное значение.

После того, как члены комиссии не приняли мой перевод и по-своему отредактировали его, я сказал, что не согласен с таким вариантом, и не могу поставить под ним свое имя. Валентина Дышиневич, член библейской комиссии, на это мне ответила, что ничего страшного в том не видит, потому что это - перевод соборный, комиссия его подготовила и будет издавать... Но дело в том, что ни одна глава Библии не писалась соборно, Евангелие есть плод творчества конкретных личностей - Матфея, Марка, Луки, Иоанна, и никто «соборно» им не помогал.

Когда Евангелие все же вышло, то в выходных данных не было даже упомянуто мое имя. Было написано, что книгу перевела, подготовила к печати и издала библейская комиссия белорусского экзархата. С этого момента я порвал все отношения с ними. Я понял, что белорусский перевод церкви не нужен вообще. А подтвердила это мне все та же Валентина Дышиневич. После того, как я принес перевод первого из Евангелий, она сказала: «Вполне достаточно, чтобы вышло Евангелие от Матфея, может быть, если лет этак через сорок возникнет такая потребность - издадим Евангелие от Марка. А для презентаций, для подарков, для того, чтобы показать, что церковь повернулась лицом к белорусам, этого хватит.»

***— Получается, что Вы переводили Евангелие вовсе без консультаций с церковью?***

— Не совсем так. Дело в том, что я нашел общий язык с живущим в Кливленде архиепископом Николаем, главой белорусской автокефальной православной церкви, существующей за рубежом, церкви законной и признанной. Он взял меня под свою опеку, попросил и дальше заниматься переводом Библии. Я переводил и посылал ее по главам в Канаду Юрке Рапецкому для набора, Рапецкий передавал набор архиепископу Николаю, который читал его, делал свои замечания и присылал обратно мне. Причем, материалы мы посылали не по почте, а передавали туда и обратно с оказией, потому что когда архиепископ послал мне письмо на пяти страницах, получил я только три, а две потерялись по дороге.

***— Много ли замечаний по Вашей работе возникло у архиепископа Николая?***

— Он по этому поводу сказал так: «Я могу сделать тысячу замечаний, написать их на полях и подчеркнуть в тексте. Но последнее слово принадлежит переводчику. Будет так, как он сказал». Я видел, что он уважает мою работу, и так же отнесся к его точке зрения, его трудам. Видите ли, пока я работал с нашей библейской комиссией, меня приучили все время оглядываться на синодальный, церковнославянский перевод, и я как-то и сам старался лишний раз не вступать в конфликты с ними. А архиепископ Николай время от времени предлагал такие белорусские варианты перевода, что мне иногда приходилось их даже отклонять.

***— Например?***

— Например, он предложил перевести выражение «Дом Божий» как «Хата Божая», чего я не могу принять. Но в общем, это сотрудничество оказалось очень полезным для меня, потому что давало возможность подумать, над той же «хатай», например. А почему он, священнослужитель такого ранга, предлагает такой вариант, почему в его глазах это возможно? Думаю, что это идет от ощущения себя белорусом до мозга костей, ведь там, вдали от родины, ощущаешь себя куда как большим патриотом, чем стоя на этой земле.

***— Можно ли назвать этот вариант перевода окончательным?***

— Конечно же, нет, скорее это компромиссный вариант между традициями православной и католической церквей. Может быть, окончательный вариант появится, когда будет выходить второе издание, уже с Ветхим Заветом. Что касается этого перевода, я назвал бы его экуменическим, потому что он был создан в сотрудничестве нескольких церквей - православной, протестантской, баптистской, пятидесятницкой, была помощь со стороны католиков, униатов. В книге я выразил благодарность Филарету, который был инициатором этого дела, благословил его. Как бы ни сложились наши отношения, я ему за это благодарен.

***— Как была воспринята в Беларуси Ваша работа?***

— По-разному. Например, не так давно снова собралась библейская комиссия, которая уже четыре года как была распущена. По поводу... перевода Нового Завета на белорусский язык.

***— Что же их не устраивает в Вашем переводе?***

— Отсутствие соборности. Ее, на их взгляд, нет ни в моем переводе, ни в том, который сделал Анатолий Клышко. Для служб наши переводы не годятся, там слишком много авторского, и вообще, нужен канонический перевод, который был бы сделан при участии церкви. Того, что мой перевод благословил и принял для богослужения архиепископ Николай, который возглавляет признанную в Беларуси самостоятельную православную автокефальную церковь, оказывается, недостаточно.

***— А может быть, дело не в качестве перевода, а в самом отношении нашей церкви к переводу Слова Божьего на белорусский язык?***

— Я абсолютно уверен в том, что это именно так. Не принимается любое отступление от церковнославянского варианта. Но это порождает свои проблемы. Так, слышит человек: «...молимся за благорастворение воздухов...» Разве он поймет, о чем идет речь? Моя тетка молилась: «Отче наш, ежу еси на небеси, дай нам есть хлеб наш насушенный...» Те, о ком говорится в Библии, простые люди, пастухи, пахари, рыбаки, и говорят они на языке, свойственном простым людям. В средневековье за самостоятельное чтение Библии сжигали на костре, только священники имели право читать Слово Божье в подлиннике. Сейчас получается что-то в этом же роде. Но ведь, если на то пошло, истина существует только в оригинале, написанном на греческом или древнееврейском языках. А переводы - лишь копии этой истины, комментарии оригинала, причем, в трактовке переводчика. Но церковь объявляет равносвятым оригиналу церковнославянский перевод, сделанный Кириллом и Мефодием. Но в таком случае, что вы исповедуете? Слово Божье или перевод его? Церковнославянский язык уже давно мертв, так как же можно служить живому Богу мертвым языком?

***— Василий Сергеевич, а как складываются у переводчика Библии отношения с Богом?***

— Работая над переводом, я чувствовал, как приближаюсь к Богу. Но чем ближе я к Богу - тем дальше от церкви, настолько ясно с каждой строкой становится, что церковь и Бог - понятия несовместимые. Церковь - это порождение грешного человека, а Бог - это Бог, и каждый ищет Его по-своему, всю жизнь, но через Библию, ибо лишь она в чистом виде Слово Божье.

***— Какими источниками Вы пользовались при переводе Библии?***

-- Переводами Евангелия с церковнославянского, русского, польского, украинского, немецкого, комментариями Лопухина, где расписано, кто переводил Евангелие, и какой смысл содержится в оригинале. Там очень подробный комментарий практически каждого стиха.

***— И еще один вопрос, который, я думаю, возникнет у многих: а зачем вообще надо было переводить Библию на белорусский язык?***

— Я начинал этот перевод ради самого языка, который сегодня умирает, а язык, на котором человек может говорить с Богом, сразу приобретает иной статус. На всех языках Библия есть, а нам, белорусам, даже этого не дано, мол, в храме Божьем говорить на этом мужицком языке - только Бога оскорблять. Но ведь нам Бог дал именно этот язык, и он его понимает. И неважно, будет ли человек молиться на нем, если Слово божье есть на белорусском языке, к нему уже по-другому относятся.

# Чаму чырвона-зялёныя сьцягі толькі ў трох найбяднейшых краінах сьвету?

Іван МАКАЛОВІЧ

Я паглядзеў сцягі амаль усіх краін свету. Чырвона-зялёныя толькі ў Буркіна-Фасо, Беніне і Бангладэш. Чаму? Відаць таму, што людзі здаўна кажуць: сімвал з такім спалучэннем колераў прыносіць толькі праклён... Па прызнанню навукоўцаў, народ Буркіна-Фасо на грані выміранния ад СНІДу. Бангладэш пастаянна наведваюць трагедыі і стыхіі. Мабыць, і Чарнобыль нам з-за гэтага? Ды і хіба тры пералічаныя вышэй краіны — кампанія для Беларусі?

Справа ў тым, што чырвоны колер сімвалізуе кроў, насілле. Таму ён паўсюдна суседнічае толькі з белым. Чаму? Таму што белы — сімвал чысціні і высакародства. Пад яго ўплывам насілле чырвонага накіроўваецца толькі на абарону справядлівасці, дабра і яно перараджаецца ў мужнасць. Менавіта гэтымі двума колерамі пафарбаваны флагі ЗША, Аўстрыі, Канады, Польшчы, Швейцарыі, Латвіі... Дзве трэці сцягоў амаль усіх вядучых еўрапейскіх і паўночнаамерыканскіх краін складаюць гэтыя два колеры.

Менавіта белы і чырвоны — аснова сцягоў усіх славянскіх народаў. Яны складаюць не меней дзвюх трацей палотнішчаў.

Што ж датычыцца зялёнага колеру, дык ён ніколі не быў на сцягах славян. Гэта сімвал ісламу. У чырвоны колер пафарбаваны флагі амаль усіх афрыканскіх і азіяцкіх дзяржаў. Не верыце? Вазьміце кніжкі аб сцягах краін свету і паглядзіце. Амаль поўнасцю зялёныя сцягі Лівіі, Заіра, Замбіі, Саудаўскай Аравіі, Пакістана... У астатніх зялёны колер пераважае.

Што ж сімвалізуе зялёны? Развіццё. Але пад ім нарадзілася і ідэалогія пашырэння, захопу чужых тэрыторый. Таму спалучэнне гэтых памкненняў — насілля і пашырэння, захопу нараджае страшны вобраз. Навошта ён Беларусі?

Выдатны і наш старажытны герб. Беларусь знаходзіцца на скрыжаванні еўрапейскіх дарог. Мала якія ваенныя віхуры абыходзілі яе бокам. Заўжды даводзілася абараняць свой дом. Дык вось, коннік з шабляй — гэта сімвал аховы свайго дому, сям'і, краю. Бывалі выпадкі, калі нашы дванаццаці-, пятнаццацігадовыя хлапчукі ўскоквалі на коней і з адвагай і ярасцю гналіся за татарамі ці іншымі ворагамі і адбівалі ў іх сваю маці, сястру, якіх тыя везлі ў рабства.

Такі цудоўны сімвал. І такі актуальны. І цяпер нам таксама трэба бараніць Беларусь — ад Чарнобыля, ад тых, у каго імперскія замашкі. Відаць, ворагам нашай Бацькаўшчыны вельмі небяспечны гэты сімвал, які пастаянна кліча да абароны свайго краю...

Сённяшняму прэзідэнту, пры самых спрыяльных для яго акалічнасцях, засталося чатыры гады. Потым — новыя выбары кіраўніка дзяржавы. І пасля іх, не выключана, новая змена сімволікі. Калі да ўлады прыйдзе чалавек дэмакратычных поглядаў, ён, несумненна, верне народу яго гістарычныя сцяг і герб. А калі — камуніст, дык змена сімвалаў тым больш непазбежная. Ен зробіць усё, каб увекавечыць сваё імя. Успомніце, колькі ў нас было канстытуцый?

Столькі, колькі і генсекаў — ленінская, сталінская, брэжнеўская... Такім чынам, мы сталі на шлях пастаяннай змены сімволікі. А гэта значыць, будуць пастаянныя чэргі ў АВІРах, пастаянна трэба будзе выкладваць з кішэні грошы на новыя пашпарты, пячаткі, пасведчанні, нумарныя знакі для машын...

Думаецца, што калі б людзі пра ўсё гэта ведалі: і пра сапраўдную цану завешчаных нам продкамі сімвалаў, і пра тыя вялікія грошы, якія вытрасуць з кішэняў толькі дзеля вяртання здані камунізму, — наўрад ці галасавалі б яны за іх. Таму не выпадкова былі вызвалены ад пасад незалежныя рэдактары буйнейшых газет перад рэферэндумам. Ставілася мэта любой цаной дабіцца жаданага выніку.

Простая жыццёвая логіка падказвае, што варта спярша абмеркаваць як след пытанне аб сімволіцы ў камісіях Вярхоўнага Савета з удзелам спецыялістаў, потым у друку ўсім грамадствам. І толькі потым, калі людзям скажуць усю праўду пра сімволіку "тую і гэтую", калі ў іх паспее ўласная думка, прымаць канчатковае рашэнне, каб "раз і назаўсёды". Хочацца спадзявацца, што новы Вярхоўны Савет прыме менавіта такое рашэнне. Тым больш што па пытанню сімволікі "за" на рэферэндуме сказалі толькі 48,6 працэнта ад усёй колькасці выбаршчыкаў.



# ДВАНАЦЦАЦЬ АПОСТАЛАЎ

Сяргей Рыбчонак

НАША НІВА

**Тэма гэтага артыкула — славутыя скарбы Радзівілаў, іх ахутаны таямніцамі лёс, а таксама разрабаваньне Нясьвіскага замка ў 1812 годзе.**

## Крыху гістарыяграфіі

Спэцыяльнага дасьледаваньня гэтай праблемы не было наогул: у друкаваных крыніцах маюцца толькі згадкі, пра якія трэба сказаць больш падрабязна.

Спачатку пра апосталаў. Толькі нямногія сьведкі пакінулі іх апісаньне. А.Чартарыйскі, які на пачатку XIX ст. быў міністрам замежных спраў Расейскай імпэрыі, згадваў «Багаты замак у Нясьвіжы. У 18 залях адных толькі упрыгожваньняў сабралася на 5 альбо 10 мільёнаў дукатаў. Каштоўныя калекцыі зброі, кніг, брыльянтаў. Але няма нічога больш дарога за калекцыю «12 апосталаў», 5 зь іх чыстага золата і ўсыпаныя каштоўнымі камянямі». Падобнае апісаньне даў і расейскі пасол у Польшчы Рапнін, які разам з каралём гасьцяваў у Нясьвіжы ў 1784 г. Пазьнейшыя дасьледнікі скульптураў ня бачылі, таму іх сьведчаньні розьняцца ў велічыні, матэрыяле й іншых дэталях.

Шмат хто з гісторыкаў спрабаваў адказаць на другое пытаньне: куды й калі апосталы разам зь іншымі скарбамі зьніклі? Арыенцірам тут павінны былі стаць словы Мірковіча пра тое, што «Яны (гарматы. — С.Р.) і цяпер ляжаць у склепе, дзе ў таямніцы хаваліся скарбы, разрабаваныя атрадам Тучкова».

Першым сур'ёзным дасьледнікам стаў Ул.Сыракомля. Спачатку ён напісаў разьдзел пра гісторыю Нясьвіжа ў «Старажытнай Польшчы», дзе згадаў калекцыю апосталаў, а пазьней, папрацаваўшы ў нясьвіскім архіве Радзівілаў, выдаў «Вандроўкі па маіх былых аколіцах», дзе, на жаль, не адзначыў, хто і як разрабаваў замак.

У 1855 г. П.Шпілеўскі таксама запісаў нясьвіскія паданьні, але зрабіў гэта некрытычна: скульптуры ў яго набылі натуральную велічыню, а зьвесткі пра разрабаваньне замка наогул зьнiклі.

Адам Кіркор, аўтар артыкула ў «Живописной России», якую выдаў П.М.Сямёнаў-Цяньшанскі, нагадаў пра ўдзел расейскіх войскаў у разрабаваньні Нясьвіжа. Але В.П.Сямёнаў-малодшы, адмовіўшыся ад крытычнасьці Кіркора і амаль дакладна перапісаўшы Шпілеўскага, стаў наступным мітатворцам.

Пасьля рэвалюцыі гэты міт працягваў разьвівацца. Пакуль В.Чантурыя нарэшце не паведаміў цывілізаванаму сьвету, што Нясьвіж разрабавалі фашысты. Польскія навукоўцы (Б.Таўрагінскі) тымчасам, не ўдакладняючы дэталяў, пісалі аб разрабаваньні скарбаў у 1812 г. расейскімі войскамі.

Сёньняшнюю інтэрпрэтацыю старога міту ў сваёй папулярнай, хоць і ня вельмі дакладнай рабоце «Скарбы Нясьвіжа» дае К.Шышыгіна. Напэўна, ёсьць сэнс нагадаць яго зьмест.

Апошні нясьвіскі ардынат князь Дамінік Радзівіл прыняў удзел у паходзе Напалеона на Маскву. На зваротным шляху ён заехаў у замак і дамовіўся з дазорцам, дзе схаваць скарбніцу. Усё астатняе багацьце Дамінік загадаў пагрузіць на фурманкі й адправіць за ім усьлед. Але тут у Нясьвіж уступілі расейскія войскі пад кіраўніцтвам адмірала Чычагава, і... фурманкі адправілі на Маскву. Дазорца Бургельскі паслаў да князя ганца, якога злавілі каля Міра й расстралялі. Зь ліста быццам бы даведаліся, што скарбніца схаваная, як дамоўлена. Дазорца не адкрыў схову й быў павешаны на браме. Сам Дамінік, сьмяротна паранены, у хуткім часе памёр. Але скарб да сёньня так і не знайшлі.

## Навошта Радзівіл прадаў аднаго Апостала?

Склад радавой скарбніцы Радзівілаў на працягу часу мяняўся, таму найбольш поўны рэестар мог быць створаны толькі ў самым пачатку XIX ст. І такія дакумэнты знайшліся ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусі.

На загад князя Дамініка 1 сьнежня 1808 г. была распачатая рэвізія скарбніцы, якую скончылі ў красавіку 1809 г. Гэтая праца праводзілася для перазахаваньня калекцыі, а таксама для праверкі наяўнасьці й азнаямленьня ўладальніка з каштоўнасьцямі. Рэвізоры пераглядзелі кожную рэч з дванаццаці пакаў і старанна занатавалі ўсё, што лічылі патрэбным: зброя, напрыклад, патрабавала чысткі ад іржы, мінэралы й іншыя прыродазнаўчыя прадметы перадаваліся ў бібліятэку і г.д.

Найбольшую цікавасьць для нас мае частка калекцыі пад назвай «Цы(м)борыюм Сьвятога Міхала». Цыборыюм (у праваслаўнай традыцыі ківор) — асобнае збудаваньне ў храме для ахвяраваньняў, у нашым выпадку, напэўна, надбудова над алтаром ці сам алтар. Як сьведчыць дакумэнт, у калекцыі меліся срэбныя дзьверцы да гэтага цыборыюму, а таксама «фігуры для дэкарацый тых жа дзьвярэй належныя срэбныя пазалочаныя, а менавіта Хрыстос з Сьв. Янам, на плячы яго заснулым, у палову фігуры, Частка Шаты таго ж сьвятога Яна, два апосталы, што сядзяць у поўных фігурах у шатах пазалочаных, два апосталы па грудзі з шатамі пазалочанымі, тры галавы апосталаў з частка шаты пазалочанай і галоўка срэбная Юды — усіх адзінаццаць штук».

Выходзіць, так званыя апосталы не былі асобнымі скульптурамі, як меркавалі дасьледнікі, а складаліся ў кампазыцыю на дзьвярах, якія, у сваю чаргу, упрыгожвалі цыборыюм. Таксама адназначна вырашаецца пытаньне выкарыстанага матэрыялу — срэбра й пазалота для адзеньня. Праблема велічыні апосталаў застаецца пакуль адкрытай, але можна дапусьціць, што найбольшыя зь іх былі даўжынёй у адзін-два локці. Дарэчы, У.Сыракомля таксама згадваў такія памеры.

Найбольш спрэчная праблема часу й месца паходжаньня апосталаў. Невядома, адкуль К.Шышыгіна ўзяла фантастычныя зьвесткі пра іх зьяўленьне ў пачатку XVII ст. з Канстанцінопаля. Сам разьдзел калекцыі, ў які запісаныя фігуры, сьведчыць, што раней іх гаспадаром мог быць толькі касьцёл Сьв. Міхала ў Нясьвіжы, або навіцыят езуітаў пры ім. Трапіць да Радзівілаў яны маглі не раней, чым пасьля скасаваньня езуіцкага ордэну ў Рэчы Паспалітай, г.зн. у 1773 г., або наогул у 1786 г., калі, як сьведчыць Б.Таўрагінскі, касьцёл і кляштар былі зачыненыя й ператвораныя ў шпіталь. Сам касьцёл Сьв. Міхала быў збудаваны ў 1584-93 гг., навіцыят езуітаў пры ім адкрыўся ў пач. 17 ст., а ў 1736-38 гг. Міхал-Казімер Радзівіл «Рыбанька» нанова збудаваў і ўпрыгожыў храм. Менавіта тады, на нашу думку, і быў зроблены ўвесь цыборыюм, у тым ліку скульптуры апосталаў.

Гэтую вэрсію, як і мясцовае паходжаньне скульптураў, падмацоўвае аналіз калекцыі, бо ня толькі цыборыюм трапіў да Радзівілаў, але й іншыя касьцельныя рэчы. Напрыклад, «Абраз (у арыгінале *Votum*) чвартковы з выявай Сьв. Міхала ад Калегіюма Нясьвіскага Калегіюму Сьв. Міхала дадзены ў 1706 г.» Сустракаюцца яшчэ падарункі ад Радзівілаў, Сакалінскага, Абуховіча, Гансеўскага і іншых у 1596-1761 гг. Таму лягічна дапусьціць, што цыборыюм, які складаўся больш чым з 40 асобных прадметаў, пераважна з срэбра, ня можа ўваходзіць у іх лік. А гэта пацьвярджае, што калекцыя славутых апосталаў была зробленая ў 1720-30-я гг. у Нясьвіжы.

Прабачце, — скажа ўважлівы чытач, — усе дасьледнікі пішуць пра 12 фігур, а ў сьпісе іх пазначана толькі 11. У сувязі з гэтым можна выказаць два меркаваньні. У крыніцах ёсьць згадкі, што Пане Каханку вазіў калекцыю за сабой і пры патрэбе грошаў раз-пораз закладваў Сьв. Мацея ці Луку. Але цяжка паверыць, што ён забыўся кагосьці выкупіць. Хутчэй за ўсё, адна фігура (пашкоджаная) была пераплаўленая на срэбра: у дакумэнтах, напрыклад, ёсьць падобны загад князя Дамініка ад 17 лютага 1809 г. Невядома таксама, куды падзеліся і 4 евангелісты, пра якіх пісаў У.Сыракомля, бо знайсьці іх у рэестры нам не пашанцавала.

## Як Бургельскі стаў нягоднікам, а генэрал Тучкоў — злодзеем?

Цяжка паверыць, што амаль усе дасьледнікі XIX і XX ст., якія працавалі з архівам Радзівілаў, не глядзелі дакумэнтаў пра разрабаваньне замка ў 1812 г. Але вельмі падобна на тое. Апроч хіба У.Сыракомлі, які, напэўна, спадзяваўся вярнуцца да гісторыі Нясьвіжа больш грунтоўна, ды Адама Кіркора, які згадаў адным сказам: «...Скарбы разрабаваныя войскамі Чычагава ў 1812 г.»

Пачатак XIX ст. стаў для Беларусі чарговым выпрабаваньнем. Паверыўшы генію Напалеона й ідэям францускай рэвалюцыі, шляхцюкі кінуліся аднаўляць незалежнасьць Бацькаўшчыны. Малады й гарачы ўладальнік Нясьвіжа князь Дамінік таксама пайшоў на Маскву, нават сфармаваў на ўласныя грошы асобны ўланскі полк. На зваротным шляху ён, напэўна, заехаў у Нясьвіж, але наўрад ці зьбіраўся узяць радавыя багацьці з сабой. А ўжо 30 кастрычніка ў горад увайшоў корпус Тучкова з малдаўскай арміі Чычагава. Далейшыя падзеі лепш за ўсё пераказаць паводле рапарту тагачаснага дазорцы замку Альбэрта Бургельскага, якога расейцы, на жаль, не павесілі на браме.

Пачуўшы ад мясцовых жыдоў, што Радзівілы хаваюць вялікія скарбы, уланскі палкоўнік Кнорынг заявіўся ў замак, адабраў у дазорцы ключы й пасадзіў Бургельскага за краты. Праз некалькі дзён прыехаў Тучкоў і ўчыніў дазорцу допыт. Спачатку ўгаворвалі словамі, а пасьля зьбілі на яго вачох бізунамі й палкамі некалькіх служкаў, пагражаючы зрабіць тое самае з Бургельскім. Той спалохаўся (але не забыўся выпатрабаваць у Тучкова паперу аб прымусе адкрыць схованча) і паказаў, дзе знаходзіцца лёх. Тучкоў загадаў разламаць мураваную сьцяну, убачыў велізарнае багацьце й хацеў ўсё прысвоіць. Тым часам навіна дайшла да Чычагава. Адмірал адабраў у Тучкова ключы, стварыў з вышэйшых афіцэраў камісію й загадаў забіраць скарбы. Забіралі ўсё, у тым ліку, як піша Бургельскі, «серебро и золото в разных особенных штуках...» Каштоўнасьці былі складзены на некалькі дзясяткаў брычак, якія Чычагаў забраў з сабою. Тое, што пакінулі, яшчэ тры дні разьбіралі войска й мясцовыя жыды.

З сьнежня скванны Тучкоў са сваім корпусам зноў завярнуў да Нясьвіжа, зноў пасадзіў Бургельскага за краты й загадаў не даваць яму есьці, пакуль апошні не пакажа яшчэ схованы. Дзякуй Богу, што ў генэрала хапіла розуму не замарыць голадам адзінага сьведку! Затое ён забраў апошняе, што заставалася. У цэлым, паводле падлікаў дазорцы, шкоды ў адным замку было нанесена мінімум на 10 мільёнаў польскіх злотых .

Вось як скончылася наша скарбашукальніцтва. Адзіны, напэўна, станоўчы вынік — гэта спадзяваньне, што нясьвіжцы больш ня будуць перакопваць свой горад, зьнішчаючы рэшткі культурных пластоў.

## Пасьляслоўе

Бургельскі пражыў яшчэ 13 гадоў. Паводле яго рапарту ад 5 студзеня 1813 г., над рабаўнікамі пачалася крымінальная справа. Загадам фэльдмаршала Кутузава Тучкоў быў вызвалены ад пасады й апынуўся пад сьледзтвам. Разбор зацягнуўся аж да 1826 г., пакуль Аўдытарыяцкі Дэпартамэнт ня вынес канчатковую канфірмацыю: «... генерал-майор Тучков ни в каких злоупотреблениях или покорыствованиях не доказан...»

Тым часам у 1822 г. улады сканфіскавалі ў Бургельскага куфар срэбра (напэўна, з рэшткаў скарбніцы), які пералічылі на ўплату радзівілаўскіх даўгоў. Спадчыньніца роду княжна Стэфанія Вітгенштэйн таксама выклікала былога дазорцу ў суд, але справа цягнулася больш за 10 гадоў і скончылася безвынікова.

Што да скарбаў, дык іх лёс склаўся, напэўна, так. Адмірал Чычагаў перадаў скарб імпэратару Аляксандру I . Каштоўнасьці захоўваліся ў Расеі да пачатку XX ст., пакуль Марыя дэ Кастэляні, удава князя Антона Радзівіла, не папрасіла ў 1905 г. аб іх звароце імпэратара Мікалая II. У некаторых крыніцах нават адзначаецца, што ёй нешта вярнулі, але сёньня толькі адныя Радзівілы ведаюць, што менавіта. Лягічна таксама дапусьціць, што нешта скраў Чычагаў, які пасьля адстаўкі хуценька зьбег у Францыю і да сваёй сьмерці ў 1849 г. так і не зьявіўся на радзіме.

Нам жа застаецца толькі верыць, што прыйдзе некалі час, і скарбы вернуцца, як вяртаюцца ў нашу гісторыю князі Радзівілы.



## Рыгор БАРАДУЛІН: «Над нашай краінай — свая зорка, якая абараняе Беларусь, накіроўвае яе да незалежнасці, да дзяржаўнасці, да неад'емнасці ў Еўропе»

ЗВЯЗДА

***У наш песімістычны, стратны век (крытэрый ацэнкі які? Калі хочаце, хаця б ужо непараўнальная з мінулым жорсткасць, велізарнейшы гвалт аднаго чалавека над другім) хочацца, душа просіць, лекаў. Для мяне асабіста яны — у гаючым, крынічным слове. У родна беларускай кнізе. Калі становіцца асабліва горача і тлумна, не дапамагае ўжо астыць галаве глыток паветра нават чыстага, бярозавага кшталту, тады іду да кнігі. Тады ратуюць старонкі прозы Янкі Брыля і светлай памяці Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага, Васіля Быкава і Віктара Карамазава, Алеся Жука, вершы Аляксея Пысіна і Сяргея Законнікава, Анатоля Вялюгіна і Пімена Панчанкі... Багатая беларуская кніжніца! Ратуюць, вяртаюць спакой, гоняць прэч трывогу і вершы Рыгора Барадуліна. Зараз, ужо, мусіць, хутка будзе год, як на пісьмовым стале, дома, — яго апошні вершаваны зборнік «Евангелле ад мамы». Чамусьці часта так атрымліваецца, што кніга аказваецца разгорнутай на 74-й старонцы — з вершам «Любоў да Радзімы».***

*Вочы маюць сляпыя,*
*Вушы маюць глухія,*
*А бязмозгія не без ілбоў.*
*Настальгія па настальгіі —*
*Гэта й ёсць*
*Да Радзімы любоў.*

***Чаго ў творы болей — светласці альбо песімізму? Каменціраваць вершы — няўдзячны, бязглузды занятак. Даказваць чыюсьці альбо ўласную любоў да Айчыны — і ўвогуле бестактоўнасць... Вось і дыялог наш з Рыгорам Барадуліным атрымаўся проста пра радзіму, яе ўчарашні і заўтрашні лёс. Мы меней гаварылі пра паэзію. Болей — пра палітыку. Праўда, яны ўжо перапляліся, так цесна звіліся ў клубок, што ні пад якім пражэктарам не разгледзіш паэзію асобна ад палітыкі. Як і ў палітыкі ёсць паэтычна-лірычная, мастацкая форма выяўлення. Але ж пра ўсё — у размове з народным паэтам Беларусі Рыгорам БАРАДУЛІНЫМ. Спярша толькі — невялікае, свайго роду бліц-апытанне.***

**— Рыгор Іванавіч, чаго вы больш за ўсё баіцеся ў жыцці?**

— Непрыемнасцяў. Яны мяне чакаюць.

**— Непрыемнасцяў па рабоце?**

— Ва ўсім. Я не настроены, што заўтра мне будзе добра.

**— Сэрца адчувае?**

— Так. І адчуванні заўсёды збываюцца.

**— Якая ў вас была мара ў маладыя гады?**

— Вельмі наіўная — убачыць надрукаваным сваё прозвішча. Я збіраў друкарскі шрыфт, звязваў з літар «Барадулін», намазваў чарнілам і рабіў адбіткі. Дужа было радасна. Пасля, з гадамі, я зразумеў, якая за гэтым, надрукаваным, прозвішчам стаіць адказнасць.

**— А што пакінула найбольшы адбітак за ўсе пражытыя гады на вашым сэрцы, у вашай душы?**

— Пячатка, хутчэй след — гэта мама. Я жыў і застаўся з мамай, з яе штохвілiннай прысутнасцю. Калі гаварыць пра зорку, то мая зорка — гэта мама. Яна ёсць мой космас.

**— Вам часта сніцца мама?**

— Рэдка. Але гэта самыя светлыя хвіліны жыцця. Мама рана памерла. А яшчэ малому гаварыла мне: «Ты мяне не бойся, калі я памру». Яна ніколі не прыснілася дрэнна. Такой вось прыемнай аблачынкай. Мне заўсёды здаецца, што яна прыносіць адтуль добрыя весткі.

Маміна душа — адналюбка. Яна мяне гэтак жа моцна любіла. Болей так, як маму, я ніколі нікога не любіў, нікім так не даражыў. Праўда, цяпер у мяне ёсць самае любімае стварэнне — унучка Дамінічка.

**— Што вы збіраецеся перадаць у спадчыну сваім нашчадкам?**

— Я стараюся ў асноўным перадаць унучцы шчырасць і дабрыню. Мая дабрыня не зусім чыстая і незамутнёная. Гэта ж нараджаешся з добрым і чыстым сэрцам, а пасля запыльваешся на жыццёвых дарогах. І ўсё ж — шчырасць і дабрыню... І разам з тым я баюся, бо гэты свет, у якім пакідаю яе — не ведаю, калі гэта здарыцца, — ненармальны, жорсткі. Быць шчырым і добрым у гэтым свеце, на жаль, як ні сумна гаварыць, — небяспечна.

**— Значыць, дылема?**

— Ільготы, выгоды, даброты — усё гэта пыл... Але я пакідаю яе адну. Як дрэўца ў полі. А дрэўца ў голым полі, маленькае кволае дрэўца ў велізарным вятрыстым полі любы знішчыць, пастухі вогнішча развядуць. Гэта і хмарыць мой настрой. І нічога не зробіш — што я магу?! Толькі застаецца спадзявацца на Усявышняга, спадзявацца, што Бог — бацька.

**— Ёсць для большасці людзей і яшчэ адно вымярэнне існавання ў прасторы гэтага свету — адносіны з сябрамі і ворагамі ці, хутчэй, — сутыкненні з людзьмі, як з сябрамі і ворагамі. Ці шмат у вас сяброў?**

— Іх застаецца ўсё меней і меней, яны там зараз, дзе існуе вечнасць.

**— Здараецца так, што сябры пакідаюць вас, становяцца ворагамі?**

— Выпадковыя, так званыя сябры, яны, натуральна, адпалі, адляцелі, бы лісце з дрэў у восеньскую пару. Ворагі... З гадамі гэта, ведаеце, крышачку смешным здаецца. Я стаўлюся да тых, хто лічыць сябе маімі ворагамі, з усмешкай. Мала часу, няма душэўных сіл на нейкую марнату — змагацца з ворагамі. Іх, дарэчы, любяць камуністы і таталітарны рэжым.



**— Любяць?**

— Любяць ствараць. Патрэбна. Хіба ж не класічнае — спачатку стварыць цяжкасці, а пасля пераадольваць іх?..

❑

**— Рыгор Іванавіч, гэта ўсё апошнім часам навідавоку, што вы — народны паэт Беларусі, паэт-прафесіянал высокага класа, перакладчык, улюбёны ва ўсе мовы і літаратуры свету, займаецеся палітыкай. Ці не шкада вам на гэта часу?**

— Часу заўсёды шкада. Асабліва з гадамі, калі адчуваеш, што яго мала, мала, застаецца ўсё меней, меней... Але такая ўжо спецыфіка нашага жыцця, асабліва ў нашай дзяржаве Беларусь, што, як гаворыць палякі, хоць пэнкнеш — ды мусіш. Проста займацца толькі паэзіяй — гэта будзе, з аднаго боку, проста здрадай. А з другога боку атрымліваецца сапраўды так, калі займаешся палітыкай, маеш нейкае да яе дачыненне — здраджваеш паэзіі. Тут пасярэдзіне нешта трэба шукаць. Увогуле, калі браць паэзію ў чыстым выглядзе, яна ў нейкай ступені палітызаваная. Сам чалавек ад свайго нараджэння палітызаваны. Так, не ў такой ступені, форме, якая вызначае свядомага, самастойнага ўдзельніка палітычнага жыцця. Адносіны чалавека да свайго суседа, да прыроды, да жыцця — гэта ўжо ёсць палітыка, я лічу. Само слова пасля з'явілася. Спярша быў чалавек. Латынь нам падказвае: «Чалавек ёсць сацыяльная жывёліна». Калі сацыяльная — значыць палітычная, палітызаваная. І прыходзіцца займацца. Безумоўна, у чыстым выглядзе я ніякі не палітык, я толькі маю нейкае дачыненне. Стараюся быць у палітыцы на ўзроўні слова, на ўзроўні свайго бачання свету. Палітыкам, калі вы ўжо мяне так ахрысцілі, застаюся тады, калі пішу артыкулы, рыхтую выступленні. Палітык — і ў жанры гумару. Часта пішу дурноты...

**— Значыць, паэт — усё ж такі палітык?**

— Так. І нават так званыя паэты ў чыстым выглядзе. Тым, што яны не ўдзельнічаюць у палітыцы, якраз удзельнічаюць... Вызваляюць тую нішу, якую зоймуць, магчыма, іх ворагі, ворагі іх чытачоў.

**— Дачыненне да палітыкі, мяркуючы па барадулінску, — гэта і выкананне літаратурнай місіі?**

— Так склалася, што беларуская паэзія, беларуская літаратура з самага пачатку палітызаваная. У тым сэнсе, што яна змагалася і змагаецца за беларускасць, за беларускую дзяржаву і за беларускую мову. А яе ж увесь час... Беларуская мова унікальная, столькі яе часу душылі, знішчалі, а яна жыве. Як трава з-пад асфальту, як трава з-пад бетонных пліт на ўзлётнай паласе прабіваецца. І ўсё таму, што так дадзена ад Бога.

**— Але хіба не павінна ў паэзіі ў большай ступені, чым палітыка, прысутнічаць каханая, жанчына, маці?**

— Каханне, мама, жанчына, прырода — гэта аснова паэзіі. Дарэчы, паэт правяраецца не ў вершах на тэму любові да радзімы, паэт правяраецца ў першую чаргу на інтымнай лірыцы. Грамадзянская паэзія — больш халодная, больш жалезабетонная. Калі пісаць грамадзянскую паэзію, па-савецку кажучы, трэба рабіць цёпла, саграваць яе душою. У акцёраў ёсць паняцце «іграць з халодным носам», дык вось большасць грамадзянскай савецкай паэзіі — «з халодным носам». Пісалі па прынцыпу: «Пракукарэкаў, а сонца можа не ўзыходзіць». Інтымная лірыка, як тая лакмусавая паперка, што паказвае душу паэта, глыбіню яго пачуццяў.

**— Як жа тады быць з паэзіяй Маякоўскага ці Броўкі?..**

— Некалі я многіх пакрыўдзіў, гаворачы пра Маякоўскага, што ён — геніяльны крыміналіст. Ягонае богаборніцтва, нелюбоў да нацыянальнага (ёсць жа ў публіцыстычных артыкулах Маякоўскага: «горад рускі») — гэта ўсё парушала духоўны стрыжань паэтычных памкненняў. Дарэчы, вядомы такі прыклад. Калі Ясенін прыязджаў на Каўказ, то прасіў афішы пісаць па-расійску і па-грузінску.

**— Думаю, што ў гэтым праявілася проста элементарная павага да іншага народа.**

— Павага, так. Але ж Маякоўскі пісаў: «Хохол мне ответил: «Не чую». У Маякоўскім да канца жыцця застаўся савецкі вялікадзяржаўнік. А Ясенін застаўся лірыкам, селянінам, земляробам у самым лепшым сэнсе гэтага слова. Вось Ясеніна я не ўяўляю калгаснікам. А Маякоўскі вёў тую самую лінію, што і Горкі, які ненавідзеў селяніна. Славілі рэжым — і ён іх загубіў.

Дарэчы, Броўка... Пры вонкавай трамбоннасці, здавалася б, звышпартыйнасці, ён заставаўся тонкім лірыкам. У Броўкі, як ні ў кога зараз, калі прайшоў час, можна выбраць шэдэўры сапраўднай лірыкі, прыродаапісальнай лірыкі. Адна цікавая дэталь. У Броўкі, Панчанкі, пасля — у Пысіна была самая лепшая паэзія ў вайну. А ў астатніх у нашых... Вайна выяўляла ў экстрэмальных умовах паэта. І Броўка па генетычнаму свайму коду не быў жа ўжо такім савецкім. Ён піў натуральнае малако, а не парашковае, ён помніў і касавільна, і плуг, ён ад сялян. Працаваў па сялянскаму прынцыпу: «Трэба памаліцца — памалюся». Я добра ведаю, што думаў Броўка не гэтак артадаксальна, як можна меркаваць адно толькі па напісанаму ім.

Самае крыўднае і цікавае, што ў цяперашніх маладых па генетычнаму коду перадалася савецкая селекцыя. І многія, калі крычаць, што яны супраць усяго савецкага, дзеяннямі сваімі пераконваюць, што яны — абсалютна больш савецкія, чым артадаксальны, здавалася б, партыйны Броўка.

**— І цэлая школа сучасных гарадскіх паэтаў, «талакоўцаў» і іншых — яны ў большай ступені бальшавікі, чым Броўка...**

— Так. У большыні сваёй — так. І яны нават не ўсведамляюць гэтага. Я не хачу агулам гаварыць... Яны не вінаватыя ў гэтым. Звярніце ўвагу і на «аксесуар». Сапраўды наваўвядзенне — так званая гарадская беларуская мова. А на якой мове пісалі Багдановіч і Купала? Што ёсць за такая гарадская мова?.. А ўзяць Пушкіна... А Ясенін на якой мове пісаў? Я часта гавару, што натуральная беларуская мова — гэта сырадой, а гарадская, як яны гавораць, — парашковае малако. Калі пасля натуральнага цяжка адмыць шклянку, то ад парашковага следу не застаецца.

Моладзь, паўтаруся, не вінавата. Бальшавікі парушылі генетычны код. Паскораная бальшавізацыя марна не прайшла. Трэба, пэўна, тры пакаленні, каб нарадзіліся новыя людзі, з нармальнымі мазгамі, з нармальным мысленнем.

**— Рыторыка, няшчырасць уласцівы не толькі паэзіі, але і палітыцы, многім граням і дзеям. Як гэта ні крыўдна — і беларусізацыі апошніх гадоў...**

— Абсалютна з вамі згодзен. Часам нават гавару пра тое, што ў нас ёсць і жаўрукі адраджэння, і крумкачы адраджэння. Апошнія жыруюць на гэтым адраджэнні. Некаторыя хутка памянялі лозунгі, памянялі кашулі. Сталінскія касаваротку — на вышыванку. Сталінскія галіфэ — на джынсы фірмы «Левіс». Наплыла такая каламутная вада. І ў ёй усё змікшыравана, пераблытана. Парою

цяжка разабрацца. І парою трыбунна-пафасна-шчырыя беларусы, нават калі імі кіруе падсвядомасць, — большыя ворагі беларусізацыі, беларускасці, чым людзі звычайныя, адкрытыя. Можна любую ідэю перакруціць. І вы ведаеце, як абышліся камуністы з Хрыстовай ідэяй. Колькі апаганьвалі яе... Так і з беларускай ідэяй. Адраджэнцаў шчырых мала. Бывалых у нас адзінкі.

Тое ж і з гэтымі кішэннымі партыямі. Растуць бы тыя грыбы пасля дажджу. А не мухаморы часам яны? Незразумела, хто стварае іх. Уражанне такое, што быццам усё робяць дзеля таго, каб заблытаць усё на свеце, народ заблытаць...

Больш таго — партыйкі тыя ствараюцца адным колам, адным цэнтрам, аднымі і тымі ж людзьмі. Спрацоўвае правіла: многа партый — высыпаны з рэшата, сявенькі гарох. Паспрабуй вярнуць назад кожную гарошыну, асабліва калі падлога дзіравая, а то і горш таго — земляная падлога калі ў хаце. Людзі-гарошынкі, партыі-гарошынкі — кожны і кожная ў сваёй шчыліне. Якая тут кансалідацыя? І вочы разбягаюцца, за кожнай гарошынай не ўгледзіш.

**— Рыгор Іванавіч, але ж і партыі павінны быць, і да беларускасці першага раду адраджэнцы заклікаюць масы, усіх заклікаюць. Іншая справа, што павінна быць нейкая свайго роду мяжа шчырасці і няшчырасці, павінна быць мяжа справядлівасці і несправядлівасці, сапраўднасці. Дзе яна праходзіць, як знайсці тую мяжу?**

— Мяжа павінна быць у самім чалавеку. Беларусь — у асаблівым становішчы. Нас вынішчалі. Лепшыя мазгі, галовы нацыі фізічна трушчыліся, іх перакуплівалі. Беларусь на працягу некалькіх стагоддзяў уяўляе велізарны кірмаш, дзе перакупляюць, дзе гандлююць, дзе ашукваюць. І беларусы — рабы. І нават не кірмаш, а рабскі рынак — вось што наша тэрыторыя.

Апошнія семдзесят гадоў вынішчалі найбольш старанна. Спярша — гаспадароў. Пасля — інтэлігенцыю. Застаўся змешаны люмпен. І мова — нейкі суржык. Гэта ж не мова, якой карыстаюцца тут... А калі гаварыць пра расійскую, то яна павінна рахунак прад'яўляць, што жыхары нашай тэрыторыі і яе псуюць. Здзек сапраўдны з расійскай мовы.

Вы пытаецеся, дзе мяжа? Згадаю такі прыклад. Беларускі мастак-эмігрант Барыс Забораў расказаў мне ў Парыжы гісторыю. Савецкі эмігрант, адкрыўшы бензакалонку, пачаў разбаўляць бензін вадою. Усе газеты, увесь Парыж, краіна абурыліся: «Нягоднік! Гэта ж ён зрабіў шкоду для матораў...» Я засмяяўся. Маўляў, французы ненармальныя — пытанне ставяць з ног на галаву. На самай жа справе ненармальныя мы. Разумееце, усё перакулена, перавернута.

**— Таму і фільм свой пра Васіля Быкава вы назвалі «Край перакуленых нябёсаў»...**

— Мы жывём у перакуленым свеце, перакуленым грамадствам жывём. Пакуль не паставім самі свой край так, каб неба было над галавой, а зямля пад нагамі, — нічога тут па-людску не атрымаецца. Ніякія ініцыятывы не дапамогуць. Уражанне, што народ наш замбіраваны. Гавораць, добра ў нас, вайны ў нас няма. А чаму яна павінна быць? У нас сітуацыя, блізкая да Масквы 1993 года, — такую ідэю падкідваюць з Масквы. А чаму наша сітуацыя павінна быць блізкай да маскоўскай?

І ўсё ж мяжа... Яна — сумленне кожнага з нас, кожнай чалавека-адзінкі.

**— Добра. Грамадства ў нас, па вашаму перакананню, усё яшчэ чакае...**

— Чакае так, як баланды ў лагеры чакаюць, ведаючы, што самі ні на што не здольныя. Некалі мама мая гаварыла, жартавала, што ёсць закон цыганскі: «Ёсць — жры, няма — мры». Ніхто не думае пра заўтрашні дзень. А Бог жа нам даў жыццё і галоўны абавязак — клапаціцца пра сябе. Адзінае, што Бог забараніў, — накладваць на сябе рукі. Жыццё — не ваша, не маё, а дадзенае Богам. Яго трэба бараніць, цаніць, над ім трэба рупіцца. Ад гэтага нас адвучылі. Мы ўсё чакаем, што нехта нам дасць што-кольвечы добрае.

**— Жыццё — выпрабаванне... Ваш рэцэпт, як вытрымаць яго?**

— Рэцэпты давалі некалі райкомы, абкомы, ЦК... Я не хачу даваць рэцэптаў. Чалавек, адно заўважу, часовы ў гэтым свеце. Жывучы сумленна, ён павінен рабіць дабро. І ўсё.

**— Вы верыце ў Беларусь? Ці будучыня наша ў песімістычным чаканні бачыцца вам?**

— Усё ж такі веру. Над нашай краінай — свая зорка, якая абараняе Беларусь, накіроўвае яе да незалежнасці, да дзяржаўнасці, да неад'емнасці ў Еўропе. У гэтым, відавочна, наш лёс. Нягледзячы на ўсе бядоты, мы, беларусы, народ трывалы.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

"Беларускі Дайджэст" чакае Вашае ахвяры на Выдавецкі Фонд!!!

# ДЗЕСЯЦЬ "ПАЛЫННЫХ" ГАДОЎ

"Беларусь"

**У гісторыі кожнага народа ёсць перыяды, якія інакш, як чорнымі, не назавеш. Часцей за ўсё яны звязаны з войнамі, эпідэміямі, голадам, прыроднымі катаклізмамі. Апошняе дзесяцігоддзе ў жыцці нашага народа назаўсёды застанецца ў памяці афарбаваным у чорны колер, бо давялося нам зведаць беды не меншыя, чым у гады ваеннага ліхалецця: "перабудова" з яе нестабільнасцю і рэвалюцыйнымі зменамі ў свядомасці і ў душах людзей, змена грамадскага ладу, эканамічны крызіс, масавае збяднене людзей, беспрацоўе... А перадусім — атамная катастрофа, якая ў адно імгненне нібы прыглушыла сонечнае ззянне і напоўніла паветра палынным прысмакам бяды. Пазбавіцца ад яго мы наўрад ці зможам у бліжэйшае стагоддзе...**

**Сёння нават бадзёры аптыміст з тых, што прывыклі "скараць" прыроду і абставіны, пазірае ў свой заўтрашні дзень з несвядомым пачуццём трывогі. Што датычыць самаадчування, то хто цяпер не скардзіцца на здароўе! А ўжо калі нам дарослым жывецца нясоладка, што гаварыць пра дзяцей, якія з самага свайго нараджэння сталі заложнікамі Чарнобыля і нашага няўмелага рэфарматарства. Нервовая сістэма дзіцяці — мяккі пластылін, на якім адбіваюцца ўсе хібы сямейнага і школьнага выхавання, неўладкаванасць у грамадскім жыцці, парушэнне экалагічнай раўнавагі. Пра стан здароўя дзяцей, пра тое, як жывецца ім у наш няўтульны атамны век, мы і вырашылі пагаварыць з галоўным педыятрам Міністэрства аховы здароўя Беларусі Юрыем Віктаравічам МАЛЬЦАВЫМ, дзяржаўным чыноўнікам па прафесіі і чулым дзіцячым доктарам па прызванню.**

**— Юрый Віктаравіч, вы, можна сказаць, дзіцячы доктар усёй рэспублікі. Ці не маглі б вы даць вызначэнне стану здароўя ўсіх дзяцей Беларусі і сказаць, як паўплывалі на яго вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС?**

— Пытанне гэта настолькі вялікае і неадназначнае, што на яго нельга адказаць у некалькіх словах. Мала сказаць, што сёння ў рэспубліцы больш як 230 тысяч дзяцей (а гэта прыкладна 10 працэнтаў) маюць тыя ці іншыя адхіленні ў стане здароўя. Трэба яшчэ памятаць, што агульная захваральнасць дзяцей вельмі высокая: 900 выпадкаў на 1000 дзяцей. У структуры захворванняў пераважаюць хваробы органаў дыхання (каля 70 працэнтаў), інфекцыйна-паразітарныя, нервовай сістэмы, органаў пачуццяў. За апошнія гады амаль удвая павялічылася захваральнасць нованароджаных. Расце колькасць дзяцей з паніжанай вастрынёй слыху і зроку, парушэннем паставы, прычым за час навучання ў школе колькасць дзяцей з гэтай паталогіяй павялічваецца ў 5 — 7 разоў, а колькасць абсалютна здаровых зніжаецца ў 4 — 5 разоў. За апошнія гады прыкладна на 30 — 35 працэнтаў павялічылася колькасць дзяцей, якія пакутуюць на хваробы органаў стрававання, мочапалавой сістэмы...

**— Але ж ва ўсіх гэтых хваробах цяжка "абвінавачваць" Чарнобыль. Да прыкладу, парушэнне паставы ў дзіцяці можна папярэдзіць, калі сачыць за яго паводзінамі ў школе і дома...**

— Абсалютна з вамі згодзен. Не толькі Чарнобыль павінен у тым, што нашы дзеці сталі кволымі і хваравітымі. Сацыяльна-эканамічны крызіс у грамадстве, пастаянны псіхалагічны прэсінг галечы і беспрацоўя, непаўнацэннае харчаванне прыводзяць да пагаршэння стану ўсяго насельніцтва. А ў хворых бацькоў нараджаюцца слабыя і хворыя дзеці. Сёння больш паловы жанчын дзетароднага ўзросту пакутуюць на хваробы, якія ўплываюць на цяжарнасць і роды. Захваральнасць жанчын за 10 апошніх гадоў павялічылася ўдвая.

А чаму? Ды вы паглядзіце, чым яны сёння займаюцца! Большасць жанчын, якія страцілі работу, вымушаны прадаваць цыгарэты на вуліцах, "матляцца" на электрычках і аўтобусах у Польшчу, Расію, Турцыю, Кітай за "таварам". А потым мерзнуць на базарах, кураць, саграваюцца гарэлкай і, чаго ўтойваць, уступаюць у інтымныя сувязі з выпадковымі людзьмі. Адсюль усплёск сіфілісу і венерычных захворванняў. А ўсё гэта, вядома ж, не садзейнічае здароўю будучага дзіцяці. Яно часцей за ўсё нараджаецца хворым і трапляе ў атмасферу далёка не ідэальную: забруджанне навакольнага асяроддзя, радыенукліды, нітраты, атрутныя рэчывы, солі цяжкіх металаў... Бацькі ж, заклапочаныя ўласнымі праблемамі, не заўсёды аб гэтым задумваюцца.

Мы "выйшлі" з дзіцячага ўзросту і забыліся, як хочацца дзіцяці пабегаць па лужыне, напячы "піражкоў" з мокрага пяску, паскакаць басанож па мяккай траве. А там жа, як вядома, не толькі мікробы... Уявіце на імгненне, што вы крочыце па тратуары на ўзроўні пяцігадовага дзіцяці. Разам з пылам вас ахутваюць клубы выхлапных газаў аўтамабіляў, якія праносяцца міма. А ў іх і чадны газ, і свінец, і іншыя цяжкія металы. Усё гэта асядае на скуры дзіцяці, трапляе ў яго лёгкія, садзейнічаючы развіццю розных паталагічных працэсаў.

**— З усіх экалагічных фактараў "чарнобыльскі" для нас найгалоўны...**

— Так, Чарнобыль зрабіў і працягвае рабіць сваю чорную справу. Даследаванні вучоных паказваюць, што пастаяннае ўздзеянне малых доз радыяцыі не менш разбуральна ўздзейнічае на арганізм, чым аднаразовае абпраменьванне. Лічбы сведчаць, што тэмпы росту захваральнасці дзяцей, цяжарных жанчын намнога вышэйшыя, чым да аварыі. Павялічылася колькасць неўрозаў, сардэчна-сасудзістых захворванняў, анемічных сіндромаў. Усё часцей выяўляюцца дзеці з клінічнымі і лабараторнымі прыкметамі імунадэфіцыту. А зніжэнне імунітэту азначае зніжэнне супраціўляльнасці арганізма розным хваробам. Дый самі хваробы сёння цяжэйшыя, з больш частымі ўскладненнямі. Нярэдка ў дзіцяці выяўляецца цэлы комплекс захворванняў, сярод якіх цяжка выдзеліць асноўнае. Лячыць такое дзіця вельмі няпроста.

Асаблівую заклапочанасць медыкаў выклікае рост аўтаімунных тырэаідытаў і рака шчытападобнай залозы ў дзяцей, асабліва ў Гомельскай і Брэсцкай абласцях. Колькасць гэтых хвароб павялічылася ў дзесяткі разоў. Калі да чарнобыльскай катастрофы мы выяўлялі 1-2 выпадкі ў год, то за пасляаварыйны перыяд праапераравана ўжо больш за 400 дзяцей са злаякаснымі новаўтварэннямі. Прычым рак шчытападобнай залозы вызначаецца асаблівай агрэсіўнасцю, схільнасцю да метастазіравання і інвазіўнасцю, г.зн. здольнасцю пранікаць у іншыя органы і тканкі.

**— Які ж лёс чакае гэтых дзетак? Ці навучыліся нашы ўрачы лячыць рак шчытападобнай залозы, лейкемію?**

— Павінен сказаць, што праблемы паталогіі шчытападобнай залозы, анкагематалагічных захворванняў у дзяцей знаходзяцца пад пастаянным кантролем Міністэрства аховы здароўя. Вы ведаеце, што яшчэ ў 1991 г. была прынята комплексная мэтавая праграма "Ахова мацярынства і дзяцінства ва ўмовах уздзеяння катастрофы на Чарнобыльскай АЭС", якая цяпер прадоўжана да 2000-га года. У адпаведнасці з праграмай ажыццяўляюцца ўсе неабходныя мерапрыемствы па маніторынгу, ранняй дыягностыцы, прафілактыцы і лячэнню любой паталогіі ў дзяцей і цяжарных жанчын. Ніводнае дзіця, незалежна ад таго, жыве яно на "чыстай" ці "забруджанай" тэрыторыі, не застаецца па-за ўвагай урачоў. Нягледзячы на тое, што ў нас працуе дзіцячае анкагематалагічнае аддзяленне пры 1-й клінічнай бальніцы Мінска, гэткія ж аддзяленні ў Магілёве і Гомелі, сёлета будзе завершана будаўніцтва новага Рэспубліканскага дзіцячага анкагематалагічнага цэнтра. Створаны і дзейнічае Рэспубліканскі цэнтр анкапаталогіі шчытападобнай залозы.

Вучоныя і ўрачы-практыкі, якія працуюць у гэтых установах, назапасілі вялікі і унікальны вопыт, карыстаюцца заслужаным аўтарытэтам ва ўсім свеце. Лячэнне дзяцей праводзіцца па міжнародных пратаколах, што дазваляе дасягнуць стойкай рэмісіі ў 70 — 80 працэнтаў анкахворых. А гэта, паверце, вельмі неблагія паказчыкі...

**— І ўсё ж многія бацькі імкнуцца накіраваць сваіх хворых дзяцей на лячэнне за мяжу. І пры гэтым наракаюць на Міністэрства аховы здароўя, без дазволу якога сёння нельга адправіць дзіця ні на лячэнне, ні на аздараўленне...**

— Гэта зусім не бюракратычныя гульні, як здаецца на першы погляд. Найперш таму, што лячэнне і аздараўленне — розныя рэчы. Калі размова ідзе аб лячэнні, мы ніколі не пярэчым, каб дзіця лячылася за мяжой, нават калі яго хваробу мы можам вылечыць і дома. Галоўнае, каб лячэнне прыносіла яму карысць і праводзілася па міжнародных пратаколах. За гэтым якраз і сочыць Рэспубліканская камісія па накіраванню на дыягностыку і лячэнне за мяжу пры Міністэрстве аховы здароўя. На аздараўленне ж накіроўваюцца і здаровыя дзеці, і калі раптам за мяжой праводзіцца іх абследаванне, бяруцца аналізы крыві, дык гэта не аздараўленне, а дыягностыка. А яна павінна праводзіцца толькі ў адпаведнасці з заключаным дагаворам, каб навуковы матэрыял, а гэта надзвычай каштоўны матэрыял, не стаў набыткам чужой дзяржавы. Калі ў дагаворы гэтыя моманты абумоўлены і яны задавальняюць абодва бакі, мы можам пайсці на такое абследаванне. Вядома, не ва ўрон здароўю дзіцяці.

Разам з тым грамадзяне Беларусі, знаходзячыся на лячэнні за мяжой, павінны быць абаронены ад некваліфікаванага ці неапраўданага медыцынскага ўздзеяння. Мы вымушаны былі пайсці на больш строгія меры перасцярогі пасля памятнага канфлікту з італьянскімі спецыялістамі. Калі памятаеце, года паўтара назад дваццаці дзецям з Гомельскай вобласці, якія паехалі на аздараўленне пасля аперацыі па шчытападобнай залозе ў Італію, у аддзяленні эндакрыннай хірургіі клінікі універсітэта г. Піза былі праведзены паўторныя аперацыі. Без згоды Міністэрства аховы здароўя Беларусі і без уліку лячэння, якое праводзілася ў рэспубліканскім цэнтры пухлін шчытападобнай залозы, што можа адмоўна паўплываць на стан іх здароўя ў будучым. Праўда, дазвол бацькоў на аперацыі яны атрымалі, але ж бацькі не разумелі ўсіх вынікаў хірургічнага ўмяшання і думалі толькі аб адным: як паправіць здароўе дзяцей. Да таго ж многія па сённяшні дзень перакананы, што за мяжой лечаць лепш, чым у нас. А гэта не заўсёды так.

**— Дарэчы, а чым завяршыўся канфлікт?**

— Італьянцы вымушаны былі прызнаць сваю памылку. Яны прыязджалі да нас, вывучалі праблему і згадзіліся, што беларускія анколагі назапасілі вялікі вопыт лячэння хвароб шчытападобнай залозы, распрацавалі перадавую методыку. Потым запрасілі нашых спецыялістаў у Італію, дзе заключылі пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне дыягностыкі, лячэння і рэабілітацыі анкалагічных хворых. Адным з пунктаў гэтага пагаднення прадугледжана лячэнне і рэабілітацыя ў Італіі дзяцей, якія падвергліся аперацыйнаму або радыеметабалічнаму лячэнню рака шчытападобнай залозы ў Пізе ў 1994 годзе. Дваццаць беларускіх дзяцей будуць штомесяц накіроўвацца ў медыцынскія ўстановы правінцыі Таскана для рэабілітацыі і восем — для правядзення радыеёдатэрапіі. Толькі цяпер дзеці будуць ездзіць у суправаджэнні беларускіх урачоў.

**— Такім чынам, хацелі мы таго ці не, пасля чарнобыльскай катастрофы Беларусь стала зонай павышанага інтарэсу вучоных і медыкаў многіх краін. Нас жа больш цікавіць, якую практычную карысць прыносіць навуковае супрацоўніцтва, як міжнародныя праекты дапамагаюць пераадолець вынікі атамнай катастрофы.**

— Мяркую, не варта бачыць у міжнародным супрацоўніцтве толькі карыслівыя інтарэсы. Не трэба скідваць з рахунку і чыста гуманітарную накіраванасць многіх праектаў і шчырае жаданне дапамагчы ў нашай бядзе. Можна прывесці нямала прыкладаў плённага і карыснага для нас супрацоўніцтва. Так, пагадненне паміж міністэрствамі аховы здароўя Беларусі, Расіі, Украіны і Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя, заключанае ў 1992 годзе, дазволіла нам ажыццявіць шырокую праграму па вывучэнню медыцынскіх аспектаў вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (ІРНЕСА). У выніку дагавора, заключанага паміж міністэрствамі аховы здароўя Беларусі і Нідэрландаў, у Гомелі з 1991 г. паспяхова працуе беларуска-галандская кансультацыйна-дыягнастычная паліклініка, цалкам укамплектаваная сучасным медыцынскім абсталяваннем, пастаўленым Галандыяй. Хворых у гэтай паліклініцы прымаюць і беларускія, і галандскія ўрачы.

З 1992 года ў адпаведнасці з мемарандумам аб супрацоўніцтве з Мемарыяльным фондам аховы здароўя Сасакава вядуцца сумесныя работы па вывучэнню ўплыву малых доз радыяцыі на арганізм дзіцяці, у першую чаргу — на шчытападобную сістэму. За час рэалізацыі праекта абследавана каля 150 тысяч дзяцей на Беларусі, Украіне і ў Расіі, у тым ліку 23 тысячы — па Гомельшчыне. Гэта значная дапамога ўсім тром рэспублікам. Своечасовае лячэнне дзяцей, у якіх выяўлена паталогія, дапаможа многім з іх захаваць здароўе і жыццё.

Нельга не памянуць добрым словам і Міністэрства ўнутраных спраў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, якое ўжо каторы год шэфствуе над Дзіцячым хірургічным цэнтрам 1-й клінічнай бальніцы Мінска, правяло рэканструкцыю і тэхнічнае перааснашчэнне залаў, рэанімацыйнага аддзялення, прыёмнага пакоя, затраціўшы на гэта больш за 8 млн. нямецкіх марак. Гэты пералік прыкладаў, якія сведчаць, што ў нас намнога больш сяброў, чым мы думалі, можна прадоўжыць.

**— Акрамя таго, шматлікія кантакты дзяцей і іх бацькоў з новымі сябрамі за мяжой, якія яны завязалі з дапамогай дабрачынных фондаў, таксама дапамога, і не толькі маральная. Тысячы беларускіх дзяцей штогод выязджаюць на адпачынак і аздараўленне за мяжу, атрымліваюць пасылкі. І ўсё ж праблема летняга аздараўлення з кожным годам становіцца больш вострай...**

— Так, неўзабаве надыдзе лета і мы зноў будзем шукаць сродкі, каб аздаравіць хаця б тыя 530 тысяч дзяцей, якія жывуць у забруджанай зоне. Але ж мы, урачы, як ніхто іншы, разумеем, што ў летнім аздараўленні маюць патрэбу ўсе дзеці Беларусі. Зрабіць гэта надзвычай цяжка, бо дзіцячых санаторыяў у нас мала, піянерскія лагеры практычна зачынены з-за банкруцтва прадпрыемстваў. Летась, да прыкладу, санаторна-курортныя службы забяспечылі патрэбу ў летнім аздараўленні дзяцей толькі на 27 працэнтаў. Наўрад ці палепшыцца становішча і сёлета.

У нас часта пытаюцца, як мы ставімся да адпачынку дзяцей за мяжой. Станоўча, бо разумеем, што гэта сяброўская падтрымка суседзяў дапамагае хоць у нейкай ступені вырашыць нашы праблемы. У прынцыпе ж дзецям лепш адпачываць у сваёй краіне. Дзеці малодшага і сярэдняга ўзросту, асабліва хворыя, з цяжкасцю пераносяць дальнюю дарогу ў Германію, Аўстрыю, Італію, іншыя краіны, не паспяваюць адаптавацца за 2 — 3 тыдні да новых абставін. А для некаторых зварот у наша не такое прыгожае і не такое сытнае, як на Захадзе, жыццё — дадатковы стрэс... Так што ў нас няма іншага выйсця, як зрабіць жыццё нашых дзяцей на радзіме больш шчаслівым. А для таго, каб звінеў вясёлы дзіцячы смех, каб дзеці не хварэлі, круглы год атрымлівалі вітаміны, а ўлетку добра адпачывалі і набіраліся сіл, мы, дарослыя, павінны зрабіць усё, каб вывесці эканоміку з крызісу. Толькі моцная і заможная дзяржава, клапатлівая і забяспечаная сям'я здольны выхаваць дужае і здаровае пакаленне, забяспечыць свой заўтрашні дзень.

**Гутарку вяла Людміла СУХАНАВА.**

# *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Сп. Рэдактар!

Дзякую Вам за беларускую газэту, прашу высылаць яе ў далейшым. Далучаю ахвяру на выдавецкі фонд.

На маю думку, добра было-б не друкаваць занадта вялікіх артыкулаў, якія часамі гавораць пра адное і тое-ж. Дыктатура дусіць інфармацыю, таму перш за ўсё чытачы патрабуюць яе. Добра, калі будуць навіны пра выпадкі з жыцьця, ня толькі Менска, але таксама Гародні, Віцебска і г. д.

З пашанай, Б. К.

*Інфармацыя з Беларусі даходзіць у Амэрыку вельмі спозьнена. Беларуская почта працуе перадпатопнымі спосабамі... Вашы заўвагі прымаем да ведама, дзякуем.*

Паважаны Спадар Прускі!

У студзені 1995 г. я пакінуў сваю Радзіму — Беларусь, дзе нарадзіўся і жылі некалькі стагодзьдзяў мае продкі, дзе я пражыў амаль 70 гадоў у Менску і атрымаў адукацыю ў беларускай школе. У апошнія гады працаваў загадчыкам аддзела ў Інстытуце эканомікі АНБ.

Дзякуючы Вашай дабраце і ўвазе я ўжо больш года атрымліваю газэту "Беларускі Дайджэст". З вялікай увагай, цікавасьцю і задавальненьнем чытаю газэту. Тут друкуюцца зьместоўныя артыкулы, якія даюць уяўленьне аб становішчы на Беларусі. Гэта нас, эмігрантаў з Беларусі, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасьці, вельмі цікавіць.

Вялікае дзякуй Вам за Вашу ахвярную працу! Жадаю Вам моцных сіл, добрага здароўя і далейшых посьпехаў у Вашай карыснай працы...

Хачу яшчэ раз адзначыць, што газэта мне вельмі падабаецца і я прашу высылаць яе ў далейшым. Далучаю ахвяру на падтрыманьне выдавецкага фонду.

З пашанай і найлепшымі пажаданьнямі, Я. Г.

*Дзякуем за прыгожы ліст добрыя пажаданьні і ахвяру. Жадаем Вам таксама ўсяго найлепшага.*

Многапаважаны Сп. М. Прускі!

Пры гэтым дасылаю нашу ахвяру на выдавецкі фонд "Беларускага Дайджэсту".

Ваша газэта мяне і маю жонку вельмі цікавіць, і мы яе чытаем з вялікім задавальненьнем. Гэта адзіная крыніца адкуль мы з цікавасьцю даведваемся, што робіцца там — у далёкай па адлегласьці і блізкай сэрцу нашай дарагой Бацькаўшчыне.

З пашанай да Вас, В. і Л. К.

*Дзякуем за ліст і ахвяру. Таксама просім дасылаць нам адрасы людзей, якія ўмеюць чытаць пабеларуску...*

Паважаны Сп. Прускі!

Шчыра дзякую Вам за беларускую газэту. Ужо больш як год дастаю Вашу цікавую газэту, а ніяк не магла сабрацца, каб выслаць Вам ахвяру на выдавецкі фонд. Цяпер высылаю.

З пашанай, Н. Д.

*Лепш пазьней, чы ніколі. Жадаем Вам усяго найлепшага.*

Добры дзень, Спадар Прускі!

Вельмі дзякую Вам за перасылку мне такой любімай мною газэты — "Беларускі Дайджэст". Пры гэтым высылаю маю скромную ахвяру на выдавецкі фонд. Газэту чытаю з вялікай цікавасьцю. Спадзяюся, што беларускаму народу ўдасца адстаяць поўную незалежнасьць.

Жадаю Вам добрага здароўя на доўгія гады. П. П.

*Дзякуем Вам за ахвяру і просім дапамагаць нам у прыдбаньні новых чытачоў.*

Даражэнькі Мікола!

Каб падтрымаць выданьне сьвяточнага нумару газэты перасылаю скромную ахвяру на выдавецкі фонд.

Жадаю Вясёлых Калядаў і Шчасьлівага Новага 1997-га году. Жыве Беларусь!

З пашанай, Б. Д.

*Дзякуем за сьвяточныя пажаданьні і ахвяру. Усяго найлепшага.*

(Далей глядзі на старонцы 11-ай)

*"ЛіМ"*

# "МНЕ ВАЖНА НЕ ПЕРАКЛАСЦІ..."

Зміцер КОЛАС

У ПОШУКАХ СЭНСУ ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЦІ ПЕРАКЛАДЧЫКА

— Што, ёсць нейкая пэўная задача, якую чалавек мусіць у жыцці выканаць? Ні чорта няма. Пісаць варта не дзеля таго, каб напісаць, а каб пісаць. Мне важна не перакласці, а перакладаць. Бальшыню літаратурных твораў успрымаю толькі са стылістычнага боку. Па шчырасці, пераважная бальшыня сённяшніх сюжэтаў вычарпана ўжо старажытнымі грэкамі. Я выбіраю толькі тое, што мне цікава стылістычна. Калі магу выбіраць. І тое, што з нашым выдавецтвам, дзе працую і кіраўніком, і перакладчыкам ("Беларускі гуманітарна-адукацыйны культурны цэнтр". — **Ж. Л.**), шчыльна супрацоўнічае Фонд Сораса, дазваляючы выбіраць, — паказальна, па-мойму. Апошні Сорасаў праект разам з Central Europian University Press, калі з шэрагу выдавецтваў выбралі і наша, перадусім прадугледжваў спіс з 268 назваў. Мы ўзялі сабе (выдаваць?) дваццаць кніг. Я выбраў з большага класіку: Арыстоцеля, Макіявелі, Канта, Фрэйда, Гегеля, Дэкарта, а па культуралогіі — перыяд еўрапейскага Адраджэння. Каго ці што, на маю думку, цяпер перакласці абавязкова або неабходна як мага хутчэй? Усё. Усіх. Мяркую, чым далей, тым больш мы адстаем ад сусветнага ўзроўню. Калісьці сам для сябе вырашаў, што ж такое сусветная літаратура: яе ж, як такой, няма, існуе нейкі цьмяны, уяўны вобраз. Кожная нацыянальная літаратура дасягае ўзроўню сусветнае настолькі, наколькі яна яе ў сябе ўбірае. А як можна ўбіраць ды перапрацоўваць? Толькі праз пераклад. Як нашы аўтары могуць успрыняць іншыя стылі, асаблівасці, адкрыцці, — праз пераклад. Яны, маючы пераклады, проста не змогуць не наблізіцца да сусветнага ўзроўню: гэта назіраецца, дарэчы, на ўсіх прыступках цывілізацыі. Усе сучасныя мовы ды літаратуры паўсталі з наследавання нейкім папярэднім. Чаму мне было цікава ў выдавецкім спісе выбраць еўрапейскае адраджэнне? Бо — паўставанне новае Еўропы пасля сярэднявечча і ягонай вульгарнай лаціны! Нацыянальныя мовы тады практычна не жылі, — гэта потым пачалося перакладанне антычных аўтараў, паступовае развіццё — ажно да класічных формаў, а пасля — ізноў вяртанне да нацыянальнага, слаўуты рамантызм! Перастварэнне, мовім так, свайго, але ўжо на дасягнутым — высокім узроўні. А нашая культура, на жаль, па сутнасці ізаляваная, бо надта мала перакладаў. Безумоўна, нашы інтэлектуалы, культурныя дзеячы начытаныя, але ўспрымалі, прымалі ўсё гэта не на роднай мове. Я спецыяльна ў свой час прааналізаваў дынаміку перакладаў у свеце (паводле даведнікаў ЮНЕСКА) і заўважыў, што чым больш абмежаваная мова пэўнай нацыі, тым больш робіцца на яе перакладаў. Правіла моцнае. Але зусім не жалезнае: у свеце больш за ўсё перакладаюць на англійскую ды нямецкую. Свой доклад я рабіў яшчэ за савецкім часам. Калі савецкія... нібыта чыталі больш за ўсіх, — СССР з усімі сваімі перакладамі (у тым ліку з грузінскай на дагестанскую і з рускай на беларускую) выдаваў столькі, колькі Данія. Перакладной літаратуры, натуральна. Перакладная інфармацыйная прастора для Беларусі проста нулявая. А ўлічым, што з кожным годам гэтай інфармацыі ўсё больш... А пераклады не робяцца — усё далей дастаём... Лічыцца, што беларуская мова доўга не развівалася або не асучаснівалася. Дык вось — неасучасніванне ёсць вялікі плюс нашай мове. Няма заштампаванасці, яна вельмі жывая, свабодная, на ёй можна ўтварыць столькі, колькі ні на якой іншай няможна, асабліва няможна — на рускай. Там ужо гатовымі блокамі даўно перакладаюць ды гавораць, а ў нас усё разбіраецца па цаглінцы, па драбнічцы. Я адчуваю любы тэкст і любую мову з пункту гледжання стылістыкі, гучання. Дарэчы, толькі калі пачаў перакладаць, уведаў, як адначасова і лёгка, і цяжка перакладаць на беларускую. Я ж у ёй ледзь не патануў, я ж не ведаў, за што хапацца! Рэч у тым (што да заштампаванасці або скажам навукова — кадыфікацыі мовы, калі ёсць стылістычныя ўзроўні, нюансы значэнняў і да т. п.), што ў нашай мове ўсё яшчэ... туманна. Вось: хістацца, вагацца, калывацца ці яшчэ што — а паспрабуй знайдзі найпэўны адпаведнік! А псіхічна як? Чалавек вагаецца. Але, скажам, народная думка... хістаецца. Беларуская мова — той акіян, у якім прыемна плаваць. Але... тапіцца ў ім зусім не так прыемна. Вялікі боль нашае мовы — яна ніяк не вызначыцца з тэрміналогіяй. Я мяркую, што тэрміналогію трэба ўсталёўваць проста: раз і назаўсёды. Хоць гвалтам. І каб быў орган, які пэўны час сачыў бы за чысцінёй гэтай тэрміналогіі. Інакш, асабліва ў гуманітарных навуках, людзі хутка не паразумеюцца. Але ж беларусы — нацыя індывідуалістаў... Я сур'ёзна мяркую, што літаратурнае ўнармаванне мовы пачынаецца з перакладу. Бо перакладчык — не арыгінальны творца, бо ён мусіць прытрымлівацца нормы. Скажам, наватворы або абласныя адметнасці — гэта справа арыгінальных творцаў. Вельмі мала хто з беларускіх пісьменнікаў не прывязаны ў сваёй лексіцы да пэўнай мясцовасці. Назавём іх, не прывязаных, свецкімі, — Караткевіч, Быкаў... Яны — узор. Іншыя афарбоўваюць свае творы ўжываннем лексікі мясцовай, а перакладчык не мае на гэта права. Скажам, творы Мапасана, тыя ўрыўкі, дзе ўжываецца нармандскі дыялект, — што, магілёўскім дыялектам перакладаць? Трэба шукаць іншыя магчымасці, карэктаваць стылёва. Стылёвая дыферэнцыяцыя мовы — усё адно як алітаратурванне, а восъ агульназразумеласць мусіць весці рэй на ўсе сто адсоткаў. Пераклад мае на ўвазе існаванне слоўнікаў, — гэта толькі ў нас перакладчыкі самадзейнічаюць з галавы. Уласнай. А слоўнік — ужо параўнанне нейкай мовы з сваёй, а ўсё пазнаецца ў параўнанні. І пакуль у нас не будзе слоўнікаў, беларуская мова будзе абсалютна незразумелаю самім беларусам. Напрыклад, у нашым выдавецтве і ("Беларускі гуманітарна-адукацыйны культурны цэнтр". — **Ж. Л.**) ужо гатовы, набраны італьянска-беларускі слоўнік і вялікі, на сорак тысячаў слоў нямецка-беларускі. Мару зрабіць франка-беларускі, у свой час прапрацаваў увесь раслінны свет...

(Заканчэнне)

Паважаны Спадар Прускі!

Нядаўна прыехаў да нас др. В. М. і прывёз з сабою шмат беларускіх газэт. Ён прасіў, каб я пераслаў іх Вам. Так я і раблю. Пры нагодзе перасылаю ахвяру на газэту "Беларускі Дайджэст". Жадаю Вам вялікіх посьпехаў у плённай працы.

З пашанаю, Ж. Н.

*Паважаны Ж.! Дзякую за ахвяру і вялікую ўслугу з перасылкаю почты. Цяпер у мяне сабралася так шмат матэрыялу, што лёгка можна выдаць і наступны нумар газэты на 12 старонак. Але дзеля гэтага патрэбная грашовая дапамога. Будзем спадзявацца на добрых людзей...*

Паважаны Сп. Прускі!

...Няраз я дзіўлюся, як Ты можаш выдаваць такую добрую газэту для нашых багатых далярамі, але духова галадранцаў, беларусаў. Беларус скарэй прап'е за вечар 20-30 даль., а даць на нешта культурна-асьветнацыянальнае скупіцца адным далярам. Глянеш на нашых суседзяў, дык яны зусім нейкія іншыя, — больш абчэсаныя, (за выняткам рускіх, якія зусім падобныя на беларусаў). Сорамна за нашых людзей і тут і на бацькаўшчыне...

Перасылаю ахвяру на газэту і адрас знаёмага, які пажадаў паглядзець на беларускую газэту. Дай Божа спору ў Тваёй добрай працы.

З вялікаю павагаю, С. М.

*Круцімся, братка, круцімся, як тая вявёрка. Дзе бокам, дзе скокам і газэта неяк выходзіць своечасова. Ці цяжка? Вельмі цяжка, але-ж вельмі многа добрых людзей, якія мне выдатна дапамагаюць і матэрыяльна і духова.*

*Рознага балота паддастаткам і ў нас і ў нашых суседзяў, але большасьць нашых людзей, гэта добрасовесныя, культурныя і, як Ты кажаш, "абчэсаныя" людзі. Вось для іх і з імі я працую.*

*Дзякую за ахвяру і адрас ды жадаю памыснасьці ў жыцьці.*



*Беларусы ля помніка Ф. Скарыне — 31 кастрычніка 1996 г.*

# Прага зноў прымае Францішка Скарыну

*"НІВА"*

Неардынарная падзея навейшай беларускай гісторыі можа застацца невядомай для саміх беларусаў. Адкрыццё ў Празе памятнай дошкі і помніка Францішку Скарыне, мякка кажучы, не афішавалася на Беларусі. Аб заварышэнні шматгадовай падрыхтоўчай працы і вызначанай даце напачатку ведалі толькі лукашэнкаўскія чыноўнікі.

Ганна Сурмач — старшыня Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына", шмат папрацаваўшая на справу ўшанавання вялікага беларуса, даведалася аб імпрэзе выпадкова, праз уцечку інфармацыі з Міністэрства культуры (прыехаць у Прагу спадарыня Сурмач змагла з дапамогай Фонду Сораса). Пятро Краўчанка — старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах, які яшчэ ў сваю бытнасць міністрам замежных спраў арганізоўваў падзею, прыехаў за свой кошт, бо не быў нават уключаны ў склад афіцыйнай дэлегацыі. „Гэта вялікая зняваrа для мяне!" — заявіў спадар Краўчанка. „Забыліся" запрасіць прафесара Адама Мальдзіса — дырэктара Нацыянальнага культурна-асветніцкага цэнтра ім. Францішка Скарыны. Выдатны скарыназнаўца саматугам дабрацца не змог. Падобна, паласа адчужэння паміж уладамі і культурнай Беларуссю сёння набывае характар франтавой паласы.

Афіцыйную Беларусь прадстаўлялі тры члены ўрада: віцэ-прэм'ер, міністр замежных спраў, міністр культуры, а таксама пасол, які і вёў рэй. Грамадскасць складалася з супрацоўнікаў пасольства, журналістаў беларускай рэдакцыі радыё „Свабода", чэшскіх сяброў, выпадковых прахожых і нешматлікіх беларускіх грамадзян, якія змаглі дабрацца ў Прагу пад выглядам турыстаў. Сярод астатніх — прадстаўнік БНФ Віктар Івашкевіч. Чэхі трымалі транспарант з надпісам: „Беларускія дэмакраты, мы з вамі!" і час ад часу выкрыквалі лозунгі-пратэсты супраць уціску свабоды на Беларусі. Лунала некалькі бел-чырвона-белых сцягоў і небаракам-кісялёўцам давядзецца паламаць галаву над тым, як выразаць іх з афіцыйнага тэлерэпартажа.

Напачатку, 31 кастрычніка 1996 г. а 14-й гадзіне па пражскім часе адкрывалі памятную скарынаўскую дошку, умацаваную на сцяне Кліменцінума — нацыянальнай бібліятэкі Чэхіі ў самым цэнтры Прагі. Аўтару твора — менскаму скульптару Алесю Дранцу не надта шанцуе са Скарынай у сённяшняй Беларусі. На пачатку 90-х гадоў гэты таленавіты малады майстар выйграў прадстаўнічы конкурс на лепшы помнік Скарыне ў Менску і каторы год чакае, пакуль урад знойдзе грошы на яго ўстаноўку.

Другая частка падзеі распачалася а 15-й гадзіне непадалёк ад каралеўскага замка на Градчанах, дзе Скарына калісьці працаваў вучоным-батанікам чэшскага караля. Недзе тут знаходзіцца і магіла нашага першадрукара, якую ніяк не ўдаецца знайсці. Граў ваенны аркестр, бронзавую фігуру вялікага беларуса (аўтар помніка — Эдуард Астаф'еў) атачала ганаровая варта ў парадных строях з начышчанай да бляску зброяй. Пад шум прамоваў мы пацiху тлумачылі цікаўным пражанам чаму сцягі над нашымі галовамі зусім не падобныя на той чырвона-зялёны, які трымаюць салдаты варты. Чэхі выказалі шмат павагі да Скарыны і зусім мала — да лукашэнкаўскіх міністраў. Чэшскі консул у Катавіцах, пачуўшы, што мы з калегам едзем на адкрыццё помніка Скарыны, адразу ж выпісаў нам прапускны ліст да пагранічнай варты. З віцэ-прэм'ерам і міністрамі ўрада Лукашэнкі сустрэўся толькі намеснік міністра культуры Чэхіі. Дэмакратычная Чэхія дэманстравала розніцу сваіх адносінаў да беларусаў і да рэжыму дыктатара. Беларусам сёння хораша дыхаецца ў Празе, таксама як і некалькім пакаленням беларускай эміграцыі ў пачатку XX стагоддзя, таксама як і вялікаму Францішку Скарыне ў XVI ст. Прага прымае і саграваe нас, наталяе адвечную беларускую прагу да глытка волі. Тут святыя нашы магілы. На Старых Альшанскіх могілках — Пётра Крэчэўскі, Юры Захарка, Міхась Забэйда-Суміцкі...

Цяпер у свеце ёсць тры помнікі вялікаму Беларусу: у Полацку, Лідзе і Празе. Будзе так, што і сталічны Менск на галоўнай сваёй вуліцы — праспекце Францішка Скарыны — паставіць яму помнік. Але хіба не пры гэтай уладзе...

**Алесь Краўцэвіч**

Апошнія
# НАВІНЫ

Прэзыдэнт А. Лукашэнка падпісаў "Указ" аб звальненьні беларускага ген. Лявона Мальцава з пасады міністра абароны Беларусі. Яго месца заняў начальнік галоўнага штаба ўзброеных сілаў, рускі ген.-лейтэнант А. Чумакоў...

***

Нам паведамляюць, што «Дзяржаўная самастойнасьць Украіны» (даволі значнае палітычнае аб'еднаньне) пачало падрыхтоўку паставіць памятнік (бюст) Адольфу Гітлеру. У сваёй заяве гэтая ўкраінская арганізацыя паведамляе, што гэта адбудзецца ў тым выпадку, калі да студзеня 1997 г. урад Украіны не загадае зьнесьці ўсе памятнікі Ўладзіміру Леніну. Бюсты і статуі Леніна гэтага рускага паганца яшчэ дасюль (як і на Беларусі) "украшаюць" шматлікія насельныя пункты Украіны...

***

Інфармацыйныя крыніцы паведамляюць, што на Беларусі ўладу перанялі розныя тыпы бальшавіцкае афарбоўкі, якія рэкрутуюцца з былых афіцэраў КГБ (НКВД), што ў свой час перамясьціліся ў Беларусь з краін Балтыі, Нямеччыны, Польшчы ды іншых гнёздаў іхняе агентурнае дзейнасьці.

Гэта ў сваёй большасьці людзі рускага паходжаньня, што чамусьці пабаяліся пераехаць у Расею, і розныя інтэрнацыяналісты-сталінцы ды бэрыяўцы. На Беларусі пры дапамозе сваіх аднадумцаў яны лёгка і хутка знайшлі падатную глебу для свае злоснае дзейнасьці. З часам з імі пачалі калабараваць каля мільёна рускіх, якія пражываюць на Беларусі і займаюць кіруючыя пасады ў ваўсіх мясцовых органах улады. Яны амаль усе не прызнаюць беларусаў за асобы народ і пазьвярынаму ненавідзяць усё беларускае... Гэтыя людзі цесна павязаны з маргінальнымі і заканадаўчымі плынямі ў Расеі ды не церпяць Прэз. Б. Ельцына, Чарнамырдзіна а асабліва Чубайса, якія ў сваю чаргу выкарыстоўваюць іх у сваіх праімперскіх мэтах, хоць добра ведаюць з кім маюць дачыненьне. Сусьветная банкаўская сыстэма пільна пры глядаецца фінансавым маніпуляцыям ды адмываньню грошай з Менска ў іншыя краіны блізкага і дальняга замежжа. Прадбачаецца, што Беларусь дойдзе да найніжэйшае грані нішчаты, але каманду А. Лукашэнкі гэта зусім не цікавіць, бо самі яны "плаваюць у масьле". Абалванены і сьпіты-прапіты беларускі народ усё яшчэ стаіць трымаючыся за плот і ніяк ня можа працьвяразіцца... А антыбеларуская брыгада пад кіраўніцтвам Замяталіна, Цюцінькова, Посахава, Латыпава, Ярмошына, Цэпкалы, Мясьніковіча ды шмат іншых спраўляюць шабаш над цяжка хворым целам беларускага народу... Час аднак працуе не на іх карысьць і ў канцы канцоў ім давядзецца цяжка расплачвацца за сваю антынародную дзейнасьць...

Палітычныя дзейнікі сьвету пачалі ўважна, дакладна і глыбока вывучаць "беларускі фэнамен". Некаторыя прадказваюць, што на Беларусі можа заіснаваць вельмі трагічная і балючая сытуацыя...

***

Беларускі прэзыдэнт Лукашэнка наказаў паліцыі распусьціць парлямэнт, які ён разагнаў. Ён таксама падпісаў новую канстытуцыю, якая дае яму дыктатарскія правы і прадаўжае тэрмін яго ўрадаваньня. Расея, якая нібы выказвала пэўныя рэзэрвы перад рэфэрэндумам, выслала дэлегацыю на шабаш падпісаньня канстытуцыі. Гэта гаворыць шмат аб чым... Над Беларусьсю ўзьняўся прывід "Северо-западнага края"...

***

Імя народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава ўжо некалькі дзесяткаў гадоў вядомае ва ўсім сьвеце... Сёньня імя Васіля Быкава асацыюецца з нацыянальным адраджэньнем, з незалежнасьцю нашай краіны, з барацьбой за правы чалавека. І таму ня дзіўна, што менавіта цяпер, у гэты складаны палітычны час, пасол Італіі ў Беларусі Джан Лука Бертынета ўручыў ордэн Італіі «За заслугі» народнаму пісьменьніку Беларусі Васілю Быкаву. Гэтая ўзнагарода, па словах пісьменьніка, — знак прызнаньня беларускай нацыі, беларускай літаратуры і беларускай культуры.

***

Як падае прэса, Сп. Лукашэнка назваў цяпер ужо зусім бяссільных парлямэнтарыяў здраднікамі і паставіў паліцэйскія заставы перад будынкам парлямэнта.

Верныя яму прыстасаванцы ляскалі ў далоні падчас цырымоніі. Цяпер ён мае неаграні чаныя правы і будзе дзяржаць уладу да 2001 году. Гэта значыць, калі яму паспрыяе шчасьце...

Зьмены былі прынятыя рэфэрэндумам, які апазыцыяй называецца не дэмакратычным, а міжнародныя наглядальнікі зазначаюць бязьлікія парушэньні і звычайны падман.

Лукашэнка мае папулярнасьць сярод насельніцтва, якое жадае павароту да бальшавізму. Тое, што ўвесь сьвет будзе глядзець на Беларусь як на адстойнік паганства, нікога не абходзіць.

Сп. Лукашэнка востра выступае супраць пашырэньня НАТО і падбухторвае Расею адбудоўваць мілітарны арсэнал, каб супрацьстаяць НАТО.

Новы парлямэнт утвораны Лукашэнкам складаецца з такіх самых крыкуноў, як ён сам, хоць адзін з дэпутатаў сказаў цішком галасам, што ён шкадуе таго, што здрадзіў, але яго застрашылі звальненьнем з працы жонкі, а гэта значыць бяда для сям'і.

(А на нашу думку гэта значыць, што на Беларусі за кусок каўбасы можна прадаць ня толькі сваю душу, але бацьку з маткай... Сорамна і гадка таварышчы...)

## А. ЛУКАШЭНКА ГАТОВЫ АБ'ЯДНАЦЬ БЕЛАРУСЬ З РАСЕЯЙ

**Прэзыдэнт Лукашэнка пацьвердзіў свой намер, выказаны з думскай трыбуны ў Маскве, правесьці ў сьнежні ў Менску паседжаньне беларуска-расейскага сходу, а ў студзені 1997 году — сумеснае паседжаньне парляментаў дзьвюх краін.**

**У інтэрв'ю журналістам у Маскве Лукашэнка (ці не беларускі Квісьлінг?) заявіў, што гатовы абмяркоўваць на гэтых форумах пытаньні аб'яднаньня Расеі і Беларусі "аж да абвяшчэньня рэфэрэндуму па гэтаму пытаньню ў абедзьвюх краінах".**

**Лукашэнка таксама заявіў, што ў выпадку, калі абедзьве краіны пойдуць на якую-небудзь з формаў аб'яднаньня, дык цяпер ён не гатовы абмяркоўваць тэму магчымага свайго лідэрства ў гэтым дзяржаўным утварэньні... Няўжо Масква пойдзе на тое, каб старшыня адсталага беларускага саўхозу кіраваў Расеяй?**

## Гранатамёты хавалі на агародах

**У адной з вайсковых часцей Брэсцкага гарнізона быў скрадзены цэлы арсенал.**

Падчас кастрычніцкіх святаў у Брэсце былі арыштаваныя чацвёра радавых, адзін сяржант і адзін цывільны, якія абвінавачваюцца ў крадзяжы і спробах продажу вялікай колькасці гранат, снарадаў, патронаў і запалаў. Справа працягваецца, і не выключана, што да адказнасці будуць прыцягнутыя і афіцэры вайсковай часці, адкуль знікала зброя.

Гісторыю пачалі раскручваць адразу пасля таго, як 6 лістапада ў кватэры 20-гадовага Н. на Пушкінскай вуліцы Брэста было знойдзена 4 процітанкавыя рэактыўныя снарады, 6 гранат, 420 патронаў. Адзін дзень спатрэбіўся супрацоўнікам абласнога ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, каб не толькі выйсці на вайскоўцаў, якія забяспечвалі «пастаўку» гэтай зброі, але і знайсці доказы іх віны. Затым да справы далучылася вайсковая пракуратура. Сумеснымі намаганнямі ўжо 8 лістапада былі знойдзены «арсеналы», захаваныя ў некаторых вёсках Пружанскага раёна. Там яшчэ было канфіскавана 4 процітанкавыя рэактыўныя снарады «Муха», 13 гранат для падствольных гранатамётаў, 1.870 патронаў да аўтамата Калашнікава, 123 запалы для ручных гранат.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

А калі беларускія патрыёты пачнуць узбройвацца і рыхтавацца да барацьбы з клікаю бальшавікоў Замяталіна і яговых калабарантаў?

## Уцякаюць...

**Інстытут сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі і Дзяржаўная міграцыйная служба правялі даследаванне міграцыі беларускіх навукоўцаў.**

Высветлілася, што ў 1991—1995 гг. за мяжу на пастаяннае месца жыхарства выехала каля трохсот навуковых работнікаў і выкладчыкаў ВНУ. З іх 26 дактароў і 114 кандыдатаў навук. Вучоныя-эмігранты аддаюць перавагу ЗША (38%). 32% абралі месцам свайго пастаяннага жыхарства Ізраіль. Кожны дзесяты выехаў у Расію, 7% — у Германію, 3% — у Канаду. Колькасць тых, хто вырашыў пакінуць Беларусь, з 1991 г. паступова змяншалася, аднак у 1995 годзе ізноў зафіксаваны рост эміграцыі навуковых работнікаў.

*БелаПАН*



Мал. А. ВАСИЛЕНКА

— А гэта нашы безнадзейна хворыя...

## *Доля Праўды*

...Разам з іншымі рэспублікамі мы атрымалі незалежнасць, але, у адрозненне ад іншых, мы не вызваліліся ад «пятай калоны». З кожным днём гэтае вызваленне вымагае ўсё большае волі і ўсё больш рашучых захадаў.

Галоўнае пытанне новага рэферэндуму — не канстытуцыя, не смяротная кара і не зямля. Усе гэтыя рэчы можна і трэба змяняць у рабочым парадку, бо пры нармальнай дэмакратыі ўсё гэта — прэрагатыва ўладаў краіны. Галоўнае пытанне — гэта фактычная адмена Дня незалежнасці.

Такія даты не бяруцца з паветра. Дзень незалежнасці — разам з сімволікай і мовай — гэта атрыбуты незалежнай дзяржавы, якія сведчаць усяму свету, што такая дзяржава ёсць. Паказальна, з якім размахам адзначаюць Дзень незалежнасці ва Украіне, Арменіі, Літве... Адмаўляючы гэтую канкрэтную дату, Лукашэнка прапануе не лічыць **гэтую** незалежнасць заваёвай і адмовіць самую дзяржаву РБ. Гэта значыць, што рана ці позна Беларусі давядзецца заваёўваць сваю незалежнасць зноў.

Лукашэнка давяршае працэс вяртання Беларусі ў стан саюзнай рэспублікі. А гэта значыць, што краінатворчы працэс рана ці позна прывядзе да адмаўлення самога лідэра «пятай калоны» Лукашэнкі. І — без пераемнасці...

## За каго галасаваць?

За каго —
Вы самі памяркуйце,
Я ж хачу вас
Аб адным прасіць:
Галасуйце, людцы,
Галасуйце
Так, каб потым
Нам не галасіць!..

## ВЕЛЬМІЖ УЖО ЎПЭЎНЕНА...

Сямён Шарэцкі, старшыня Вярхоўнае Рады Беларусі заявіў, што ў Беларусі няма праціўнікаў інтэграцыі з Расеяй... Гэта няпраўда, бо ў Беларусі ёсьць вельмі многа праціўнікам гэтай інтэграцыі. Такія заявы, гэта нішто іншае, як безадказная дэмагогія.

## У Сакратарыяце ТБМ

17 кастрычніка ў сталічнай сядзібе Таварыства беларускай мовы адбылася супольная нарада Сакратарыята ТБМ і Канцылярыі Таварыства беларускай школы. Яе ўдзельнікамі быў абмеркаваны шэраг актуальных для абедзвюх арганізацый пытанняў.

Першым з іх стала прыняцце канцэпцыі збору дакументаў аб парушэннях правоў беларускамоўных грамадзян краіны і іх дыскрымінацыі ды вызначэнне складу рэдакцыйнай калегіі "Белай кнігі". Пасля разгляду і аналізу распрацаванага віцэ-прэзідэнтам ТБШ А.Лозкам палажэння аб "Белай кнізе" было вырашана зацвердзіць гэты дакумент у якасці базавага. Тэкст "Палажэння " друкуецца ніжэй.

Дзеля выпрацоўкі канцэпцыі праваабарончага праекта, якім з'яўляецца стварэнне "Белай кнігі", вызначэння спосабу яго рэалізацыі і складу выканаўцаў было вырашана з прадстаўнікоў абедзвюх арганізацый стварыць часовую ініцыятыўную групу. У яе склад былі ўключаныя: старшыня Рады ТБШ Фрунзенскага р-на сталіцы Р.Аляхновіч, сябра Канцылярыі ТБШ Л.Мухіна, сябра Сакратарыята ТБМ Л.Дзіцэвіч, сябра Рады ТБМ С.Запрудскі, сябра Канцылярыі ТБШ В.Папсцюк, сябра Сакратарыята ТБМ У.Панада, сябра Беларускага Хельсінкскага камітэта І.Саверчанка, старшыня Менскай Рады ТБМ М.Савіцкі, сябра Менскай Рады ТБМ А.Саламонаў.

**Дарагі Чытач! Зрабі Калядны падарунак для нашае газэты...**